ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 40 (2494) 3 кастрычніка 1996 г.

Выдаецца з 1955 г. Цана 1000 рублёў.

## ПЕРШАЯ КНІГА БЕЛАРУСКАГА КНІГАЗБОРУ

Здарыўся, можна сказаць, цуд: у наш нялёгкі час распачалося нарэшце выданне залатой бібліятэкі Беларусі пад агульнай назвай -- "Беларускі кнігазбор", у якую ўвойдзе ўсё самае важнае, што было створана на беларускай зямлі ад старажытнасці да нашых дзён. Апрача кніг беларускіх аўтараў, серыю складуць важнейшыя творы рускіх, польскіх і іншых пісьменнікаў, якія былі так ці інакш звязаны з Беларуссю і цікава расказалі пра яе. Напрыклад, Францішка Багамольца, Адама Міцкевіча, Юзафа Крашэўскага, Ігната Дамейкі, Элізы Ажэшкі, Паўла Шпілеўскага, Якуба Брайцава, Фадзея Булгарына, Усевалада Крастоўскага, Івана Лажэчнікава, Мендэле Мойхер-Сфорыма і інш. Распрацаваў серыю Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы АН Беларусі. Ажыццяўляюць яе лепшыя навуковыя і творчыя сілы Рэспублікі Беларусь. Той, хто пачне збіраць кнігі гэтай вялікай, 200-тамовай бібліятэчнай серыі, стане з часам уладальнікам самага дарагога скарбу, які будзе перадавацца ў спадчыну яго дзецям, унукам і праўнукам. "Беларускі кнігазбор" стане для іх невычэрпнай крыніцай ведаў і духоўнага ўзбагачэння, сапраўдным дамашнім універсітэтам культуры.

Першая кніга, што выйшла нядаўна ў гэтай серыі, -- "Выбраныя творы" Яна Чачота, пачынальніка новай беларускай літаратуры, выдатнага паэта і фальклярыста. У аднатомніку чытач знойдзе яго вершы і песні 1818--1847 гадоў, цудоўныя Чачотавы балады, кожная з якіх чытаецца, як захапляльны раман, а таксама публіцыстыку паэта, лісты, фальклорныя запісы. Пададзены ў кнізе вялікі ўступны артыкул пра жыццёвую і творчую дарогу Яна Чачота, каментарыі да яго твораў. Змешчаны ў канцы кнігі і план-праспект усёй серыі.

Кніга выдадзена з дапамогай дзяржавы і недзяржаўных структур -- АТ "Сотвар" і кампаніі "Тусон", за што рэдакцыйны калектыў выносіць ім шчырую падзяку.

Асобны раздзел у кнізе склаў зусім нядаўна знойдзены цыкл песень-балад Яна Чачота "Спевы пра даўніх ліцвінаў да 1434 года", у аснову якіх пакладзены самыя адметныя факты і славутыя постаці Вялікага Княства Літоўскага перыяду поўнай незалежнасці і росквіту гэтай сярэдневяковай беларускай дзяржавы. Па сутнасці гэта паэтычная гісторыя старажытнай Беларусі.

Задумаў Ян Чачот свой цыкл гістарычных "спеваў" яшчэ ў філаматцкі, ці віленскі, перыяд творчага шляху, што відаць з яго пісьма да Адама Міцкевіча ад 22 сакавіка 1823 года, у якім ёсць словы: "Думаю паспрабаваць пісаць пра Вітаўта, Альгерда, Кейстута і іншых. Пра іх можна болей гаварыць, чым пра жанчын, трэба паказаць усе іх дзеі. Пагляджу, як мне гэта ўдасца. Добра б было, каб гэтыя творы можна было не толькі чытаць, але і спяваць. Яны маглі б выклікаць тады большы эфект..." Паэт мог ажыццявіць сваю задуму толькі праз 20 гадоў пасля вяртання з уральскай ссылкі, калі ў 1842--1844 гадах працаваў у бібліятэцы графа Храптовіча ў Шчорсах, багатай гістарычнымі матэрыяламі.

Прапануем ўвазе чытачоў у сваім перакладзе з польскай мовы толькі асобныя з гэтых Чачотавых "спеваў" разам з неабходнымі каментарыямі.

Кастусь ЦВІРКА.

(Заканчэнне на 6-й стар.).

## ДАРОГАЮ ЯЗЭПА ДРАЗДОВІЧА




На Віцебшчыне ў Шаркоўшчынскім раёне прайшоў пленэр, прысвечаны Язэпу Драздовічу -- універсальнаму творцу беларускай мастацкай культуры, літаратару, асветніку, збіральніку фальклору, даследчыку-аматару археалогіі і астраноміі, аўтару арыгінальнай тэорыі руху касмічных аб'ектаў.

НА ЗДЫМКУ: удзельнікі і госці пленэра ля магілы Язэпа Драздовіча ў вёсцы Малыя Давыдкі.

Фота Яўгена КАЗЮЛІ.

*(Заканчэнне фотарэпартажу на 7-й стар.).*

**НАПЯРЭДАДНІ РЭФЕРЭНДУМУ**

## СУБ'ЕКТЫЎНЫ ФАКТАР НА ФОНЕ АБ'ЕКТЫЎНЫХ ЦЯЖКАСЦЕЙ

**Мы працягваем знаёміць нашых чытачоў з меркаваннямі наконт маючага адбыцца ў лістападзе рэферэндуму, ініцыяванага Прэзідэнтам краіны. Не сакрэт, што менавіта гэты намер выклікаў палітычнае процістаянне на Беларусі. На жаль, пакуль пазіцыі бакоў робяцца толькі больш жорсткімі. Праўда, з Авальнай залы парламента прагучалі галасы з заклікам да кампрамісу, паразумення. Але ці будуць яны пачуты!**

**Слова Аляксандру БУХВОСТАВУ, дэпутату Вярхоўнага Савета Беларусі, старшыні Беларускай партыі працы, аднаму з уплывовых кіраўнікоў дэмакратычных прафсаюзаў.**

***-- Аляксандр Іванавіч, які ваш асабісты пункт гледжання на ўзнікшую праблему? Які найлепшы шлях выхаду з крызісу?***

-- Адхіленне Прэзідэнта Лукашэнкі ад улады.

***-- Надзвычай сур'ёзны крок. Ці адпавядае ён рэальным умовам у краіне і дамінуючым настроям у грамадстве!***

-- Наколькі такі варыянт рэальны -- гэта ўжо іншае пытанне. Я ж кажу пра найлепшае, ідэальнае выйсце, таму што лічу: зачыншчык усіх процістаянняў -- менавіта Прэзідэнт. Да падобных яго задум адносіцца і ініцыяванне рэферэндуму, які сёння, пры цяперашніх цяжкіх умовах, народу не патрэбны. Дзеючая Канстытуцыя дазваляе нам вырашаць усе праблемы, ніякіх асаблівых супярэчнасцей паміж заканадаўчай і выканаўчай уладамі няма. Проста ў аднаго чалавека з'явілася амбіцыёзнае жаданне ўмацаваць сваю ўладу, зрабіцца, як кажуць, і Богам, і царом, і воінскім начальнікам. Такі вось чыста суб'ектыўны фактар на фоне аб'ектыўных цяжкасцей і дае нам падобны прэцэдэнт, калі ў канфлікт уцягнуты ўжо вялікія сілы. І як ён завершыцца на справе, зараз прадказаць не бяруся.

Яшчэ адна спроба прапанаваць пагаджальныя працэдуры паміж Прэзідэнтам і Вярхоўным Саветам, мяркую, апошняя перад рашучым крокам парламента. Калі Прэзідэнт зноў не ўспрыме яе, тады ў Вярхоўнага Савета, палітычных партый, што прадстаўлены ў ім, адно выйсце -- імпічмент, што, уласна, ніхто і не хавае. Тут шмат залежыць, безумоўна, ад пазіцыі буйных фракцый -- аграрыяў і камуністаў, ці гатовы яны да такіх радыкальных дзеянняў.

Канешне, усё гэта бяда для нашай краіны, для яе эканомікі, сацыяльнай сферы. Ідзе восень, трэба займацца пытаннямі бюджэту, змяненнямі ў падатковым заканадаўстве, што даўно наспелі, -- я добра ведаю стан, у якім зараз знаходзяцца нашы прадпрыемствы. А гэтая палітычная валтузня замінае працы і толькі абвастрае становішча ў грамадстве. Урэшце, канфлікт улад можа перарасці ў канфлікт сацыяльных груп, слаёў, што выльецца ў вулічныя акцыі пратэсту.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

**КАБ БЫЛО ШТО РАСКАЗАЦЬ НАШЧАДКАМ**

## ГАРБАТА З СЯМЕЙНАГА САМАВАРА

Я ніколі не піла чаю з сапраўднага самавара. І ніколі аб гэтым не шкадавала. Ніколі -- да таго дня, калі выпадкова трапіла на выставу старажытных самавараў. Здалося, што ў невялікім пакоі гасцёўні Галубка ў гэты змрочны восеньскі дзень было неяк асабліва светла і сонечна ад іх меднага і латуннага ззяння.

(Заканчэнне на 8-й стар.).



ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

## ЗВАРОТ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**ДА ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ І ДЭПУТАТАЎ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ, ЯКІЯ ІНІЦЫІРАВАЛІ РАЗГЛЯД НА РЭСПУБЛІКАНСКІМ РЭФЕРЭНДУМЕ ЗМЯНЕННЯЎ І ДАПАЎНЕННЯЎ У КАНСТЫТУЦЫЮ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ 1994 ГОДА**

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, усведамляючы адказнасць за сучаснасць і будучыню Беларусі, імкнучыся забяспечыць грамадзянскую згоду, непахісныя ўстоі народаўладдзя і прававой дзяржавы, звяртаецца да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, якія ініцыіравалі разгляд на рэспубліканскім рэферэндуме змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь 1994 года, з прапановамі:

1. Разгледзець магчымасць адклікання сваіх ініцыятыў па вынясенню на рэспубліканскі рэферэндум змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь 1994 года.

2. Стварыць пасля адклікання прапаноў аб змяненнях і дапаўненнях у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь 1994 года Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь і Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь пагаджальную Канстытуцыйную камісію на парытэтных пачатках, якая выпрацоўвае, абагульняе і ўносіць прапановы аб змяненнях і дапаўненнях у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь 1994 года.

3. Тэкст, складзены пагаджальнай Канстытуцыйнай камісіяй, узгадняецца з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь і Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь і выносіцца на ўсенароднае абмеркаванне.

Змяненні і дапаўненні ў Канстытуцыю з улікам заўваг і прапаноў, што паступілі ў пагаджальную Канстытуцыйную камісію пасля ўсенароднага абмеркавання, разглядаюцца і прымаюцца Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь, а змяненні і дапаўненні, па якіх не будзе дасягнута згода бакоў, выносяцца на рэспубліканскі рэферэндум.

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь заяўляе, што пры дасягненні згоды бакоў па пунктах 1--3 гэтага Звароту перагледзіць пастанову Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 6 верасня 1996 года "Аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму ў Рэспубліцы Беларусь і мерах па яго забеспячэнню".

ВЯРХОЎНЫ САВЕТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ.

*20 верасня 1996 года.*

*УШАНАВАННЕ*

## ДЗЯКУЙ ІНВАЛІДАМ-СПАРТСМЕНАМ



Беларускія інваліды-спартсмены, якія паспяхова ўдзельнічалі ў дзесятых летніх Параалімпійскіх гульнях у Атланце, былі прыняты ў Прэзідыуме Вярхоўнага Савета.

"Мы глыбока разумеем значнасць той вялікай справы, з якой вы цудоўна справіліся", -- сказаў на сустрэчы кіраўнік парламента Сямён ШАРЭЦКІ. Нагадаем, што прадстаўнікі нашай рэспублікі заваявалі 13 медалёў рознай вартасці, заняўшы 28-е месца сярод 115 краін свету. Прычым наша каманда інвалідаў у такіх спаборніцтвах удзельнічала ўпершыню.

Чэмпіёны і прызёры Гульняў, а таксама іх трэнеры былі ўзнагароджаны Ганаровымі граматамі Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

*У БЕЛАРУСКІМ ПЭН-ЦЭНТРЫ*

## ПРЭМІІ ІМЯ АЛЕСЯ АДАМОВІЧА

Беларускі ПЭН-цэнтр правёў штогадовую цырымонію ўручэння літаратурнай прэміі імя Алеся Адамовіча. У намінацыі "кінапубліцыстыка" журы адзначыла стваральнікаў дакументальнага фільма "Забораўна" -- рэжысёра Сяргея Пятроўскага і аўтара сцэнарыя Рыгора Барадуліна.

Лепшым радыёпубліцыстам прызнаны журналіст Віталь Тарас, а яго калега з Расійскага тэлебачання Аляксандр Ступнікаў і рэдактар літаратурных перадач Беларускага тэлебачання Людміла Хейдарава ўдастоены прэмій у намінацыі "тэлевізійная публіцыстыка". Сярод газетных публіцыстаў прэмію імя Алеся Адамовіча атрымаў галоўны рэдактар газеты "Свабода" Ігар Гермянчук.

*НОВАЯ АВІЯКАМПАНІЯ*




Рэйсам "Мінск-Стакгольм" пачала сваю дзейнасць новая авіякампанія "Мінскавія". Палётам адзначана не толькі нараджэнне авіякампаніі, але і вызначаны лёс аэрапорта "Мінск-1". З ліквідацыяй унутраных авіярэйсаў, якія ў жорсткіх эканамічных умовах сталі нерэнтабельнымі, жыццё ў аэрапорце замерла. З узлётных палос аэрапорта ўзнімаліся ў неба толькі самалёты мінскага авіярамонтнага прадпрыемства. Дзякуючы авіякампаніі "Мінскавія" аэрапорт "Мінск-1" набывае другое жыццё. Скора тут пачнуцца рэйсы ў Калінінград, Санкт-Пецярбург, Бухарэст.

НА ЗДЫМКУ: ідзе рэгістрацыя пасажыраў на Мінск у аэрапорце Стакгольма.

*"Асноўны недахоп дзеючай Канстытуцыі, якая сапраўды зрабіла вялікі крок у накірунку дэмакратызацыі грамадства, рэалізацыі важнейшых прынцыпаў дзяржаўнага будаўніцтва, прынцыпу падзелу ўладаў, -- у тым, што яна з'яўляецца не проста палавінчатай, што яна ў цэлым грунтавалася на савецкім прынцыпе арганізацыі ўлады, у які была ўманціравана зусім новая фігура прэзідэнта як кіраўніка дзяржавы і кіраўніка выканаўчай улады. Гэта не магло не адбіцца на ўсім наступным ходзе вырашэння дзяржаўных праблем. Па-ранейшаму Вярхоўны Савет застаецца тым звяном, якое з'яўляецца ключавым у сістэме дзяржаўнай улады, любое пытанне ён можа вырашыць у форме закона, а потым кантраляваць яго выкананне. Нідзе ў Еўропе такога няма... Практычна ўсё тое, што прапанавана Прэзідэнтам, было ўжо апрабавана ў заходніх дзяржавах".*

*Аляксандр АБРАМОВІЧ, намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Беларусі.*

*МІЖНАРОДНАЕ ПРЫЗНАННЕ*

## КАНДЫДАТ У ЛАЎРЭАТЫ

Дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, намеснік старшыні Камісіі па міжнародных справах А. Лябедзька вылучаны кандыдатам на званне лаўрэата праграмы "Слынныя маладыя людзі ўсяго свету 1996 года" па лініі "Палітычныя, юрыдычныя і ўрадавыя адносіны".

Гэта паведамленне атрымана з Міжнароднай маладзёжнай палаты, старэйшай міжнароднай арганізацыі, якая створана ў 1910 годзе і мае сёння структуры ў 108 краінах свету.

У радах гэтай арганізацыі знаходзіліся Дж. Кенэдзі, Б. Клінтан, С. Накасонэ і іншыя вядомыя палітычныя дзеячы сучаснасці.

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

КОЛЬКАСЦЬ афіцыйна зарэгістраваных беспрацоўных у Беларусі на канец жніўня 1996 года складала 183,4 тысячы чалавек, або 3,8 працэнта ўсяго эканамічна актыўнага насельніцтва.

ПА СТАНУ на 26 жніўня гэтага года агульная сума пратэрмінаванай запазычанасці па заработнай плаце ў народнай гаспадарцы Беларусі складала 953,9 мільярда рублёў.

З ПАЧАТКУ сёлетняга года цэны на спажывецкія тавары ў Беларусі выраслі на 119,5 працэнта, у тым ліку на харчовыя -- на 120,2 працэнта, нехарчовыя -- на 114,9 працэнта.

СЯРЭДНЯЯ заработная плата рабочых і служачых у жніўні 1996 года склала 1 332 650 рублёў. У студзені -- жніўні гэтага года яна склала 1 192 767 рублёў і ўзрасла ў параўнанні з адпаведным перыядам 1995 года ў 1,7 раза.

БЕЛАРУСКІ І ЎКРАІНСКІ бакі маюць намер вырашыць праблему ўкраінскіх грамадзян, асуджаных у Мінску за ўдзел у падзеях 26 красавіка. Яны будуць перададзены на радзіму.

"АГРАРНІК" -- так называецца міліцэйская аперацыя, што праводзіцца ў Віцебскай вобласці. Мэта яе -- папярэдзіць крадзеж на калгасных палях, у фермерскіх і дачных гаспадарках. У аперацыі прымае ўдзел больш за 5 тысяч работнікаў міліцыі і каля 2 тысяч добраахвотнікаў-дружыннікаў.

КАЛЕДЖ яўрэйскіх ведаў "Эш Атора" адкрыўся ў Мінску. У гэтай адзінай на тэрыторыі СНД такога кшталту вучэбнай установе будуць рыхтаваць выкладчыкаў яўрэйскай гісторыі, культуры і нацыянальных традыцый.

АДБЫЛІСЯ ўрачыстасці, прысвечаныя 25-годдзю мемарыяльнага комплексу "Брэсцкая крэпасць-герой" і 40-годдзю музея абароны Брэсцкай крэпасці. З нагоды юбілею Старшыня Кабінета Міністраў Беларусі М. Чыгір уручыў Ганаровы дзяржаўны сцяг, які Прэзідэнт А. Лукашэнка ўзнагародзіў мемарыяльны комплекс.

РАСПРАЦАВАНЫ праект "Беларускае бістро", першыя кропкі якога з'явяцца ўжо сёлета. Да 2000 года плануецца мець у Беларусі больш за 240 такіх кропак хуткага харчавання. Тут будзе выключна нацыянальная кухня: дранікі, клёцкі, піца па-беларуску.

МІТРАПАЛІТ Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі асвяціў храм у гонар іконы Божай Маці ў памяць аб ліквідатарах чарнобыльскай аварыі. Царква будуецца ў Мінску непадалёк ад плошчы Бангалор.

ВЕЧАР памяці паэта Сяргея Новіка-Пяюна адбыўся ў Мінску, у Нацыянальнай бібліятэцы імя Ф. Скарыны. Мерапрыемства, наладжанае па праграме абменных сустрэч тэатра паэзіі "Зніч", супала з 90-годдзем з дня нараджэння паэта -- пакутніка сталінскіх і фашысцкіх лагераў.

*ПРАФЕСІЯ — ФЕРМЕР*



Яўгеній ГАЎРЫЛЕНКА (на здымку) паступіў у Жлобінскае СПТВ-187, калі там пачалі навучаць спецыяльнасці майстра сельскагаспадарчай вытворчасці -- фермера. Правучыўшыся на год больш, ён набудзе правы шафёра, зможа затым працаваць слесарам, электрыкам, зваршчыкам, трактарыстам і нават тэхнікам-механікам.

Летам Яўгеній праходзіў практыку ў фермерскай гаспадарцы, цяпер заняты на сартаванні бульбы. Па словах вопытнага жлобінскага фермера Міхаіла Пашука, гэта будзе перспектыўны землякроб, руплівы гаспадар.

**КОЖНЫ НАРОД МАЕ ТАКУЮ НАРОДНУЮ АДУКАЦЫЮ, ЯКУЮ ЁН ЗАСЛУГОЎВАЕ**

# ШКОЛА ЦУДАЎ

Першага верасня нашы дзеці пайшлі ў школу. З непадробнай радасцю і надзеяй яны накіраваліся туды па веды і зносіны, можа быць, спадзеючыся сустрэць там дружбу і любоў. Шчаслівыя бацькі ў думках благаславілі іх і каторы ўжо раз задумаліся пра іх будучыню. Безумоўна, яны не бачаць яе без сярэдняй адукацыі. Выкладчыкі, у сваю чаргу, прыйшлі ў гэты храм ведаў, каб рэалізаваць свае творчыя планы, і па хлеб надзённы. Бюджэт узяў абавязацельства аплаціць іх нялёгкую працу. А бацькі дапамогуць яму падаткамі.




Простая і выразная схема. Але нешта парушылася ў ёй, нешта не дае ёй працаваць. Што менавіта? Амаль усё.

Народная адукацыя, як і ўсе грамадскія інстытуты, ніколі не належала ў нас да сферы, што рэгулюе адносіны попыту і прапановы. Сёння няма ясна пазначанай прапановы на рынку выкладчыцкіх паслуг, хаця мае месца павышаны попыт на адукацыю. Разам з тым гэты попыт не падтрымліваецца гатоўнасцю плаціць добрыя грошы за добрыя веды.

Параўнаем школьныя заняткі з прыватнымі ўрокамі. Рэпетытару плацяць 5--8 долараў у гадзіну за аднаго аболтуса, а ад настаўніка сярэдняй школы патрабуюць падачы ведаў за 0,015 долара, ці 240 рублёў (!). Гэтая лічба атрымліваецца шляхам дзялення сярэдняй заработнай платы на колькасць вучэбных гадзін і колькасць вучняў.

Розніца -- у 330 разоў! Для нагляднасці ўявіце, што зрабіў бы з вашай галавой цырульнік, калі б замест належных 60 тысяч вы выдзелілі б яму 180 рублёў і запатрабавалі абслугоўвання па вышэйшаму разраду. А цяпер вы самі можаце вырашыць, чаму выпускнік педагагічнага інстытута па спецыяльнасці "матэматыка" вымушаны пачынаць сваю кар'еру выхавальнікам у групе падоўжанага дня, а выкладаць замежную мову ў школе можа практычна любы жадаючы выпрабаваць сябе на гэтай ніве? Адказ: сапраўдны спецыяліст-выкладчык замежнай мовы знойдзе сабе работу лепшую.

Але вернемся да нашай схемы "дзеці -- бацькі -- школа -- бюджэт".

**ДЗЕЦІ** — у ёй самае незалежнае звяно, таму што ад іх нічога не залежыць. Яны не могуць выбраць школу (чым іншыя лепшыя?), тып школы (платная ці бясплатная -- выбіраць бацькам), настаўнікаў. Усё, што ім дазволена, -- мець уласную думку (дасягненне перабудовы), але яна нікому не цікавая -- і хутка перастае цікавіць і самога "мысліцеля".

**БАЦЬКІ** сапраўды думаюць пра будучыню, але не таму, што пасля такой вучобы ў такой школе дзіцяці будзе лягчэй і цікавей жыць на зямлі, сярод людзей, а таму, што, калі ён не будзе туды хадзіць, можа быць, будзе яшчэ горш. Не так даўно з самагубным аптымізмам мы пераконвалі сябе, што ўсё будзе добра, таму што горш ужо няма куды. Апошнія два гады паказалі: горш ёсць куды.

Ніхто не будзе адмаўляць творчасць у рабоце настаўніка, як нельга адмаўляць высакародства гэтай прафесіі. Але з добрых намераў футра не пашыеш, больш таго, імі заслана дарога самі ведаеце, куды. Калі настаўнік не можа сваёй працай зарабіць сабе на хлеб, то яго вучні ў будучыні будуць гэты хлеб прасіць.

І што характэрна: чым менш мы плацім настаўнікам, тым больш узносім гэтую працу на словах, пачынаючы з самага пачатку пабудовы грамадства роўных магчымасцей. Успомніце: Дзень настаўніка; Дзень ведаў з морам кветак (эмблемай смутку?) і абавязковым урокам міру (тады мы не ведалі, што змагаемся за мір, прычым за ўвесь свет, далёка не мірнымі метадамі); дзень сустрэчы выпускнікоў з прызнаннямі ў любові да некалькіх настаўнікаў адразу праз 20 гадоў (ад пераапаўнення пачуццяў іх імёны, імёны па бацьку забываліся і чыталіся па паперцы); Дзяржаўная праграма па далейшаму паляпшэнню ўмоў жыцця і быту настаўнікаў (тыя, хто яе прымаў, напэўна ведалі, як ім ужо добра); увядзенне звання "Самага заслужанага настаўніка сярод усіх народных настаўнікаў рэспублікі"; прэзідэнцкая праграма падтрымкі таленавітай моладзі і г. д.

Народную адукацыю фінансуюць два бюджэты: мясцовы і рэспубліканскі. Іх функцыі істотна адрозніваюцца: першы абкрадвае школу на мясцовым узроўні, другі -- на рэспубліканскім. Першыя трацяць грошы, атрыманыя ад суб'ектаў гаспадарання ў данай вобласці (5 працэнтаў ад прыбытку) на зусім іншыя, чым гэта вызначана ў законе, мэты, напрыклад, закупку гандлёвых кіёскаў у Польшчы на суму 500 тысяч долараў, як гэта было ў Магілёве, што роўна 10 тысячам зарплат настаўнікам. Другія ўмешваюцца ў зацверджаны бюджэт і прымаюць акты, якія не хочацца называць "прававымі". Чаго варта прыснапамятная перарэгістрацыя суб'ектаў гаспадарання з забаронай на рэгістрацыю новых. Дзелавыя людзі прыходзяць працаваць і плаціць падаткі, а дзяржаўныя мужы гавораць ім: "З выпадку ўліку шніцэляў сталовая закрыта назаўсёды". Уявіць выканаўчую ўладу інакш, чым сталовай, кармушкай, яны не могуць.

Ну і, нарэшце, бацькі як **падаткаплацельшчыкі.** Яны спраўна плацяць падаткі, але з ТАКОЙ зарплаты, якую ім як бы плацяць іх наймальнікі (сур'ёзнымі працадаўцамі тых таксама назваць нельга, таму што іх саміх тасуюць у калодзе чужой гульні). Не складаючы рук (хіба што на месяц-другі спыніцца заводзік) рабочыя працуюць, выпускаюць прадукцыю, якая, накопліваючыся на складах, ператвараецца ў монстра, што паядае сваіх стваральнікаў.

Гэтае кола мы замкнулі самі. Молячыся на жывых багоў — "толькі б не было вайны", мы чарговы раз наступілі на граблі і пераканаліся, што маем той урад, які заслугоўваем.

Таму ў які б клас вы ні адпраўлялі дзіця, самі немінуча ідзяце ў першы. Дык дай вам Бог не застацца на другі год.

**Віталь МАГІЛЁЎСКІ.**

# СУБ'ЕКТЫЎНЫ ФАКТАР НА ФОНЕ АБ'ЕКТЫЎНЫХ ЦЯЖКАСЦЕЙ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

-- ***На падтрымку якіх сіл спадзяюцца прыхільнікі ініцыіравання імпічменту?***

-- Канешне, калі зыходзіць з таго, што ўнутры нашага грамадства няма сіл, гатовых пратэставаць...

-- ***Прабачце, а вы лічыце, што ёсць?***

-- Ёсць, безумоўна. Адносіны людзей да Прэзідэнта мяняюцца. Той палітычны багаж, які ён атрымаў пры выбранні, а дакладней, які літаральна зваліўся яму з неба, непазбежна будзе згублены. Палова ўжо страчана, бо за два гады практычна нічога не зроблена, апроч таго, што крайне абвастрылася ўнутрыпалітычная сітуацыя. Крокі на збліжэнне з Расіяй, якія Лукашэнка ставіць сабе ў заслугу, былі б зроблены любым кіраўніком, хто атрымаў бы ўладу, любым палітычным дзеячам. Таму, мне здаецца, час працуе не на Аляксандра Лукашэнку. І ён гэта разумее, таму так і спяшаецца ўмацаваць сваю ўладу, пакуль яшчэ ёсць на тое магчымасць. А потым ужо можна будзе чыста сілавымі метадамі задушыць апазіцыю.

-- ***І сёння ўмовы для гэтага існуюць?***

-- Так, думаю, існуюць, і настрой такі ёсць. Хаця ў "вертыкалі" таксама аналітыкі працуюць і, мабыць, бачаць, што апошнія грамадскія мерапрыемствы, што праходзяць пад эгідай прафсаюзаў, іншых палітычных сіл, сведчаць: кансалідацыя апазіцыйных сіл нарастае і падтрымліваецца пэўнымі пластамі не толькі рабочых, але ўжо і некаторай групай сельскіх жыхароў. Нам трэба проста весці асветніцкую працу. Бяда апазіцыйных сіл у тым, што ў іх няма магчымасці даводзіць сваю пазіцыю да шырокіх мас -- сродкі масавай інфармацыі манапалізаваны, апазіцыйныя газеты -- нешматлікія, у глыбінку амаль не трапляюць. Але, думаю, урэшце ўсё будуць вырашаць прамысловыя цэнтры -- калі сапраўды справа дойдзе да нейкіх масавых выступленняў, а прафсаюзы гэтага не выключаюць пры невыкананні патрабаванняў па заработнай плаце, ліквідацыі яе запазычанасці.

-- ***Мы пераканаліся, што ў нашай краіне акцыі пратэсту могуць падаўляцца вельмі жорстка...***

-- Пакуль спрабуем усё гэта ўмясціць у рамкі нашага кволага заканадаўства, якое вельмі абмяжоўвае магчымасці. Хаця адпаведная канстытуцыйная норма ёсць, там усё прадэкларавана.

Між іншым, апошнім часам у шэрагу патрабаванняў з месцаў запісана яшчэ і патрабаванне забяспечыць выкананне канстытуцыйных свабод грамадзян. Самасвядомасць людзей паціху абуджаецца. І гэты працэс будзе тым шырэйшы, чым болей насаджаецца аднабокая ідэалогія сапраўднага культу асобы.

-- ***Памятаеце, як шырока раней гулялі ў народзе анекдоты пра кіраўнікоў -- Леніна, Хрушчова, Брэжнева, Андропава, Гарбачова... Пра Прэзідэнта Лукашэнку нешта не чуваць. Можа таму, што баяцца?***

-- Па-мойму, такіх баек няма галоўным чынам з-за таго, што цяперашні беларускі Прэзідэнт не такая ўжо папулярная асоба, як тыя, каго вы згадалі.

...Хаця, канешне, і баяцца. У першую чаргу тыя, каму ёсць што губляць. А сёння такіх нямала: прадпрымальнікі, якія даражаць больш-менш наладжанай уласнай справай, "дзяржаўныя" дырэктары проста вымушаны арыентавацца на свайго гаспадара, таксама новая наменклатура -- "вертыкаль". Старая наменклатура раптам заспадзявалася на рэванш: калі Лукашэнка капае беларускай дэмакратыі магілу, дык мы хоць у канцы жыцця паскачам на ёй. А ёсць тыя, хто проста заблытаўся, напрыклад, воіны-інтэрнацыяналісты.

Дарэчы, і рабочым ёсць, што губляць. Непазбежна заўтра некага трэба будзе звальняць. А каго? Канешне, у першую чаргу, незадаволеных. Наш рабочы не адчувае сябе гаспадаром на прадпрыемстве, ён яшчэ не заўсёды ў стане абараняць свае правы. Але ўжо ёсць намер некаторых прафсаюзных арганізацый, у выпадку адсутнасці паразумення з выканаўчай уладай, ставіць пытанне аб байкоце рэферэндуму. Такім чынам, я зусім не перакананы ў перамозе Прэзідэнта на плануемай ім "нарадзе з народам".

-- ***Якія вашы адносіны да тых двух праектаў Канстытуцыі, што прапануюць нам Прэзідэнт і Вярхоўны Савет? Наколькі яны адпавядаюць агульнаеўрапейскім дэмакратычным патрабаванням?***

-- Мы зараз сярод рабочых праводзім наступнае тлумачэнне: Канстытуцыя, прапанаваная Прэзідэнтам, складаецца з трох частак, як у тым вядомым анекдоце: прэзідэнт ёсць правадыр; правадыр заўсёды мае рацыю; калі ён не мае рацыі, чытай пункт два. І многія гэта разумеюць. Сёння ставіцца пытанне: дыктатура ці свабода? Нашы прафсаюзныя эксперты зрабілі аналіз прапанаванага праекта, вынік якога мы распаўсюджваем сярод прафсаюзных арганізацый. Там добра паказваецца, да чаго прывядзе прыняцце падобнага дакумента. Дыктатура -- гэта заўсёды абмежаванне дэмакратычных правоў, у тым ліку і прафсаюзнай дзейнасці. З прыняццем такога Асноўнага Закона трэба будзе проста забыцца пра Беларусь як дэмакратычную дзяржаву.

Другі праект, альтэрнатыўны, прапанавалі парламенцкія фракцыі аграрыяў і камуністаў. Рашэнне гэтае было далёка не спантаннае, выпрацаванае сумесна с астатнімі. Праект прапануе пераход да парламенцкай рэспублікі. Але я б не сказаў, што ён і ёсць той варыянт, які трэба прымаць безагаворачна.

Я сам прыхільнік парламенцкай формы праўлення, прэзідэнт можа быць, але не як усеўладная асоба, хутчэй яго функцыі павінны мець прадстаўніцкі характар. Моцным хацелася б бачыць прэм'ер-міністра, Кабінет Міністраў, які быў бы падсправаздачны парламенту. Партыя працы і раней заяўляла: мы супраць прэзідэнцкай рэспублікі, і наша пазіцыя супадала з іншымі.

Дэмакратычная палітычная культура ствараецца толькі з цягам часу, на Беларусі ж нават не было ўмоў для яе фарміравання, для нармальнага палітычнага жыцця. Усе гэтыя дэфармацыі ў развіцці і даюць сёння тыя наступствы, што мы маем.

**Гутарку вяла Галіна УЛІЦЁНАК.**





**У новым навучальным годзе дзяцей прыняў яшчэ адзін дзіцячы сад у Жлобіне. Выхоўвацца ў "Гноміку" будуць больш за 300 дзяцей беларускіх металургаў, а іх выхавальнікі набіраліся на конкурснай аснове, так што "выпадковых" людзей тут няма.**

**НА ЗДЫМКАХ: памочнік выхавальніка Раіса ДАВЫДЗЕНКА; выхаванцы "Гноміка". Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

# УНІЯЦТВА Ў ЛЁСЕ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

Працяг.
Пачатак у N 39.

У духу гэтай рэлігіі імкнуўся ён самааддана, шчыра працаваць у ВКЛ, што вельмі імпанавала Ватыкану. У пісьме папы да польскага караля Казіміра выказвалася просьба прывесці да паслушэнства Рыгору ўсіх заходнерускіх епіскапаў, святароў і ўвесь народ, "а хто будзе гэтаму супраціўляцца, тых бязлітасна катаваць".

Гэта быў вялікі промах папы, бо гвалтам няпроста прымусіць адрачыся ад веры. Такімі метадамі так супрацьпаставілі унійнай ідэі людзей, што і прыезд у Літву манахаў бернардзінцаў, якія заснавалі ў Вільні свой манастыр, распачалі агітацыю на карысць гэтай веры, не даў аніякага эфекту. Нават сам уніяцкі мітрапаліт Рыгор адмовіўся ад гэтага сану і ў 1472 годзе з дазволу Канстанцінопальскага патрыярха Дыянісія быў зацверджаны на кіеўскі мітрапаліцкі сталец, адкуль ён кіраваў усімі епархіямі ВКЛ.

Не раз спрабаваў пасадзейнічаць, праўда, не гвалтам, уніяцкай ідэі і сам вялікі князь літоўскі і польскі кароль Казімір IV (1427--1492). Так, дзеля абрання ў 1475 годзе літоўскім мітрапалітам епіскапа смаленскага Місаіла ён паставіў перад ім умову з цягам часу наварнуцца ва уніяцтва. Умова была з радасцю прынята. Заступіўшы на пасаду літоўскага мітрапаліта, Місаіл адразу пачаў выконваць каралеўскую волю. Ён ініцыяваў напісанне і адпраўку ў сакавіку 1476 года з Вільні ліста папе Сіксту IV, у якім выказвалася просьба аб'яднаць праваслаўных з лацінянамі, ураўняць іх у правах. Акрамя Місаіла, ліст падпісалі кіева-пячэрскі архімандрыт Іаан, віленскі троцкі архімандрыт Макарый, слуцкі і бельскі князі і яшчэ 11 розных службовых асобаў. Папа, будучы добра дасведчаным, што ідэя уніі ў ВКЛ не мае шырокай падтрымкі ў народзе, не палічыў патрэбным адказваць на атрыманы з Вільні ліст.

Не толькі быў роўным, але нават трохі перасягаў свайго папярэдніка па адданасці уніяцкай ідэі ўзведзены ў маі 1498 года па прапанове Канстанцінопаля на заходнерускую мітраполію смаленскі епіскап Іосіф (Балгарыновіч). Пасланая ім у жніўні 1500 года грамата папе Аляксандру VI шмат у чым нагадвала разгледжаны вышэй ліст мітрапаліта Місаіла. І на гэты раз рымскі папа не даў дазволу на правядзенне якіх-небудзь канкрэтных захадаў па аб'яднанні праваслаўных з католікамі, бо лічыў, што да гэтага яшчэ не падрыхтаваныя масы. Меркавалася, што дасягнуць такога можна толькі праз адпаведнае школьнае навучанне і выхаванне.

Асабліва вялікае значэнне гэтаму надаваў папа Грыгорый XIII. Гэта ён заснаваў у 1577 годзе ў Рыме грэцкую калегію імя Св. Афанасія Александрыйскага, у якую прапаноўвалася набіраць і юнакоў з Вялікага Княства Літоўскага, Маскоўскай дзяржавы. Але зрабіць такое аказалася надзвычай складанай справай. Улічваючы гэта, "Рым сам вырашыў ісці з асветай у рускія краіны. На заходнюю Русь былі пераважна звернуты позіркі Рыма; там поплеч з рымскаю прапагандаю маглі дзейнічаць ва уніяльным накірунку каралі-католікі. У Заходняй Русі рымкская прапаганда і стала марыць, каб стварыць сабе трывалую базу, адкуль потым выходзілі б апосталы уніі і ў Маскоўскую Русь".

Практычна ўсё, што рабілася праваслаўным духавенствам ВКЛ дзеля падпісання уніі з каталіцкай царквой, ведалі ў Маскве. Яе мітраполію вельмі палохала, што можа надысці такі час, калі цяжка або і зусім будзе немагчыма распаўсюджваць сваю ўладу на аднаверцаў з суседняй краіны. Маецца дастаткова фактаў сцвярджаць, што ў перыяд, калі праваслаўная царква на Беларусі пачувалася самастойнай, незалежнай, яе не толькі не паважала Маскоўская мітраполія, а, наадварот, нават лічыла варожай для сваіх інтарэсаў. Не дзіва таму, калі ў час Лівонскай вайны 1558--1583 гадоў войскі рускага князя Андрэя Курбскага ўварваліся на тэрыторыю Вялікага Княства Літоўскага, яны на сваім шляху знішчалі не толькі касцёлы, але і дашчэнту разбурылі ці спалілі 24 праваслаўныя храмы. Незалежная праваслаўная царква Беларусі зусім непатрэбнай была Рускай дзяржаве. Ужо аднаго гэтага факта дастаткова, каб мець падставы сцвярджаць, што маючае адбыцца падпісанне царкоўнай уніі вельмі апраўдана з пазіцый захавання нацыянальнага суверэнітэту.

Масква, таго не разумеючы, сваімі бесперапыннымі кровапралітнымі, спусташальнымі войнамі на Беларусі, што вяліся з палякамі, толькі павялічвала водападзел паміж праваслаўнымі ВКЛ і Рускай дзяржавай. Калі ж усё большай колькасці вернікаў княства станавілася відавочным, што Масква ваюе з Польскай Каронай у мэтах гвалтоўнага далучэння іх да сябе як аднаверцаў, яны, не жадаючы стаць ахвярай чужой дзяржавы, былі вельмі зацікаўленымі і праяўлялі вялікае імкненне мець у сваёй абраднасці як мага больш чаго спецыфічнага ў параўнанні з праваслаўнай царквой усходняга суседа. І такое даволі паспяхова дасягалася на практыцы. Працяглы час жыцця ў дзяржаве, даволі адметнай па цэламу комплексу прыкмет ад Масковіі, садзейнічала таму, што і самі праваслаўныя цэрквы ў іх не так ужо і падобнымі былі адна на адну. Некаторыя даследчыкі лічаць, што пад канец XV стагоддзя ў нашым краі сфармавалася заходнеправаслаўная царква. "Яна так моцна адрознівалася ад маскоўскага праваслаўя, што тамашнія мітрапаліты лічылі яе "літоўскай схізмай". Так, заходнеправаслаўная царква дапускала абліванне замест пагружэння пры хросце; імёны нованароджаным даваліся па жаданні бацькоў, а не строга па святцах; ужывалася народная мова ў літургіі і пераклад на яе Біблії; у царкве дапускалася скульптура ды шмат іншых адрозненняў, дзе яскрава бачны заходні ўплыў. Дарэчы, папа рымскі не вызнаваўся наменікам на катэдры Св. Пятра, але першым сярод епіскапаў. Са сказанага вынікае, якім нескладаным для праваслаўнай царквы ВКЛ з'яўлялася станоўчае вырашэнне пытання уніі з каталіцызмам.

На фоне гэтых бясконцых канфліктаў і супярэчнасцяў паміж дзвюма праваслаўнымі краінамі ўмела праводзіла сваю антыбеларускую палітыку Польская Карона. Для свецкіх і духоўных кіраўнікоў ВКЛ не з'яўляліся сакрэтам яе агрэсіўныя планы. Змагацца на два фронты з такімі магутнымі краінамі неставала сілаў. Дзяржаўных дзеячаў княства ў той складанай сітуацыі ўсё ж больш пужалі агрэсіўныя планы рускіх князёў, заадно з якімі была і Маскоўская мітраполія. Вось чаму падпісанне царкоўнай уніі вельмі многімі разглядалася як найважнейшая перадумова аховы Беларусі ад несправядлівых прэтэнзій яе ўсходняга суседа -- Рускай цэнтралізаванай дзяржавы. Неабходна памятаць, што яе тэрытарыяльныя дамаганні ў дачыненні да беларускіх земляў Вялікага Княства Літоўскага зусім не зменшыліся і пасля аб'яднання апошняга ў 1569 годзе з Польскай Каронай у адну федэратыўную дзяржаву -- Рэч Паспалітую. І на гэты раз у пытаннях анексіі беларускіх земляў свецкія ўлады Масковіі мелі поўную падтрымку ад Рускай праваслаўнай царквы, уплыў якой стаў яшчэ мацнейшым у нашым краі пасля стварэння ў 1589 годзе Маскоўскай патрыярхіі. У яе адразу ж з'явілася жаданне любой цаной падпарадкаваць свайму ўплыву ўсіх праваслаўных вернікаў Рэчы Паспалітай, паколькі пасля захопу ў 1453 годзе Канстанцінопаля туркамі на яе землях вельмі аслабелі пазіцыі Канстанцінопальскай патрыярхіі. Менавіта з заснаваннем Маскоўскай патрыярхіі сярод высокіх духоўных і свецкіх асобаў набыў небывала вялікае значэнне лозунг: "Масква -- трэці Рым, і чацвёртаму не быць". "Маскоўскаму Рыму" патрэбны былі велізарныя тэрыторыі, якімі некалі валодаў першы, сапраўдны Рым. Меліся на ўвазе найперш тэрыторыі на захад ад Рускай цэнтралізаванай дзяржавы, за якія ўжо даўно з двух бакоў лілася славянская кроў. Непрыхаваныя прэтэнзіі Маскоўскай патрыярхіі на права распараджацца Праваслаўнай царквой Беларусі і павінны разглядацца ў якасці адной з прычын, што яе высокія духоўныя іерархі ўбачылі ва уніі надзейны сродак вызвалення сябе і свайго народа ад такой непажаданай залежнасці. Як бачым, апошнія два стагоддзі, што папярэднічалі падпісанню Берасцейскай уніі, не даюць важкіх падстаў сцвярджаць, як гэта многія робяць, што праваслаўе на Беларусі з'яўлялася выключна нацыянальнай канфесіяй і, значыцца, той, хто ехаў на падпісанне такога дакумента ў Бярэсце, быў ворагам беларускага народа. Палітычныя і канфесійныя справы таго часу з'яўляліся куды больш складанымі, каб даваць такую ацэнку ініцыятарам царкоўнай уніі на Беларусі.

Заключэнню Берасцейскай уніі садзейнічала і тое, што праваслаўе на Беларусі практычна ніколі не было адгароджана ад каталіцызму высокім мурам і глыбокім ровам. Ужо сам факт, што шмат здольнай праваслаўнай моладзі канчала ў краінах Еўропы каталіцкія універсітэты, можа сведчыць, як лёгка можна было дамагчыся трывалага саюзу гэтых дзвюх канфесій хрысціянства. Моцна і доўгі час станоўча ўплывала на адносіны людзей да такога саюзу тое, што яго прыхільнікам быў вельмі папулярны ў народзе вялікі князь літоўскі Вітаўт. У ВКЛ заўсёды было нямала мітрапалітаў, якія з большай прыязнасцю глядзелі ў бок папы рымскага, чым Канстанцінопальскага патрыярха ці Маскоўскага мітрапаліта ўсяе Русі. Пасля падпісання ў 1439 годзе Фларэнцыйскай царкоўнай уніі "шэраг мітрапалітаў ВКЛ бралі благаславенне на мітраполію ў папы рымскага. Але ў 80-х гадах XV стагоддзя праваслаўныя ВКЛ вярнуліся пад юрысдыкцыю канстанцінопальскіх праваслаўных патрыярхаў. На працягу амаль стагоддзя розныя мітрапаліты спрабавалі адрадзіць унію, ды палітычныя падзеі перашкаджалі іхнім намаганням. Тым не менш уніяцкая традыцыя жыла і садзейнічала збліжэнню каталіцызму з праваслаўем на Беларусі".

Не ў апошнюю чаргу на падпісанне царкоўнай уніі ў Бярэсці праваслаўныя епіскапы і мітрапаліт ішлі дзеля таго, каб высокія духоўныя асобы гэтай канфесіі былі ўраўнаваны з каталіцкай іерархіяй, маглі атрымаць месца ў вышэйшых свецкіх уладах Рэчы Паспалітай.

Вялікую ролю ў распаўсюджванні унійнай ідэі ў нашым краі адыгралі каталіцкія школы, у якія дзеля гэтага прымалі на вучобу і дзяцей з праваслаўных сем'яў. Некаторыя з іх вучыліся ў такіх школах па-за межамі Беларусі, у тым ліку ў Рыме.

Акрамя рознага роду навучальных устаноў, падрыхтоўка беларусаў -- праваслаўных да уніі ажыццяўлялася праз выданне і папулярызацыю літаратуры адпаведнага зместу. Тут можна спаслацца на апублікаваную ў 1595 годзе ў Вільні пры актыўным садзеянні езуітаў кнігу Іпація Пацея "Уния, альбо выклад преднейших арўтыкулов ку зъодноченью греков с костелом рымским надлежащых".

Сам факт маючага адбыцца на Беларусі аб'яднання праваслаўнай і каталіцкай рэлігій не павінен быў успрымацца як штосьці вельмі складанае і мала рэальнае яшчэ і таму, што з даўняе пары ў першай прысутнічалі элементы заходняй (каталіцкай) абраднасці, у другой -- наадварот, усходняй (праваслаўнай). У многіх мясцовасцях амаль па суседству размяшчаліся адзін да аднаго праваслаўны і каталіцкі храмы, іх вернікі знаходзіліся ў цесных кантактах паміж сабой, бо пакланяліся Богу. Патрэбна была толькі нейкая важкая падстава, каб матэрыялізаваць такую ідэю. Супраць уласнага жадання яе падрыхтавалі рускія цары і маскоўскія мітрапаліты і патрыярхі сваімі няспыннымі намаганнямі далучыць да сябе землі ВКЛ, заселеныя праваслаўнымі славянамі.

Мелі месца і іншыя фактары, якія перашкаджалі царкве ўсходняга абраду захоўваць належны аўтарытэт у нашым краі. У вачах многіх апошняя не надта асацыіравалася з сілай, якая на першае месца ставіла б этнакультурныя інтарэсы беларускага народа. Яна нібыта зусім не ведала, што з надыходам эпохі Рэфармацыі ў многіх еўрапейскіх краінах побач з іншымі станоўчымі з'явамі ўзнік і рух за ўвядзенне ў богаслужэнне нацыянальных моваў. Здавалася б, пасля ўдалых спробаў Францішка Скарыны па перакладу рэлігійных кніг на старабеларускую мову гэта справа набудзе больш шырокія абсягі і на парадак дня ўсплыве пытанне аб наданні ёй статуса літургічнай. Такога не адбылося. Зважаючы на такую абыякавасць праваслаўнага духавенства да роднага слова беларусаў, наш вядомы асветнік, гуманіст Васіль Цяпінскі па сваёй уласнай ініцыятыве вырашыў узяцца за пераклад рэлігійных кніг. Пачаў з Евангелля, тлумачачы свой учынак тым, што духавенства стаіць у баку ад гэтай справы, "поневежъ которымъ бы то властней учинити пристоело, митрополітове, владыки и никто з учоных через так многи час не хотели".

І, нарэшце, хочацца спаслацца на выказванне добрага знаўца гэтай праблемы, дарэвалюцыйнага гісторыка К.Харламповіча, які пісаў, што духоўныя асобы, якія заключылі Берасцейскую унію, апраўдвалі свае дзеянні яшчэ і тым, "што хацелі вывесці рускі (г. зн. беларускі. -- **Л.Л.**) народ з таго невуцтва, у якім ён заграз услед за грэкамі..."

Усё вышэйсказанае можа тлумачыць, чаму ў Вялікім Княстве Літоўскім у XV--XVI стагоддзях такую спрыяльную глебу знайшла сабе думка аб карэннай перабудове рэлігійнага жыцця, што вельмі лёгка магло ўвасобіцца ва унію праваслаўя з каталіцызмам, тым больш, што станоўчы прыклад такога саюзу ўжо даўно меўся ў Еўропе.

## ПАДПІСАННЕ УНІІ

Ніколі яшчэ старажытны беларускі горад Бярэсце не бачыў такой вялікай колькасці высокіх духоўных асобаў праваслаўнаві і каталіцкай цэркваў, як у першай дэкадзе кастрычніка 1596 года. Тлумачылася гэта тым, што пад той час у Бярэсці сабраліся духоўнікі, каб падпісаць акт аб аб'яднанні праваслаўнай і каталіцкай цэркваў Рэчы Паспалітай. Прыехалі сюды і праваслаўныя епіскапы, якія выступалі супраць заключэння такой уніі.

Непрыхільна ставіліся да саюзу праваслаўных і католікаў многія прадстаўнікі пратэстанцкіх родаў. Пацвярджаецца гэта такім фактам. У час правядзення ў Бярэсці ў Свята-Мікалаеўскай царкве сабора праваслаўных і каталіцкіх духоўнікаў з мэтай падпісання уніі тым асобам з праваслаўных, хто не пажадаў на ім прысутнічаць, не знаходзілася ў горадзе, з-за закрыцця паводле загаду караля ўсіх бажніц, месца, каб сабрацца і выказацца адносна данай падзеі. Выручыў іх пратэстанцкі пан Райскі, уступіўшы дзеля гэтага свой дом. Сучасныя даследчыкі лічаць, што пратэстантам быў і аўтар брашуры "Апокрысіс, альбо Водпаведзь на кніжкі аб саборы Берасцейскім", прозвішча якога Марцін Бранеўскі (жыў на Валыні).

Аўтарытэту Берасцейскага царкоўнага сабора 1596 года садзейнічала прысутнасць на ім патрыяршых экзархаў Нікіфара з Канстанцінопаля і Кірылы Лукарыса з Александрыі, а таксама такіх буйных дзяржаўных палітыкаў і магнатаў, як Мікалай Радзівіл, Леў Сапега, Канстанцін Астрожскі.

Урачыстае абвяшчэнне Берасцейскай уніі адбылося 9 кастрычніка 1596 года. Найбольш намаганняў для яе заключэння прыклалі з боку праваслаўнай царквы епіскап Валадзімерскі і Берасцейскі Ігнаці Пацей і епіскап Луцкі Кірыла Тарлецкі. Сам акт Берасцейскай уніі быў зацверджаны польскім каралём Жыгімонтам III Вазам універсалам ад 15 снежня таго ж года.

Так здзейсніўся акт, да якога на працягу некалькіх стагоддзяў імкнуліся пэўныя духоўныя і свецкія колы Беларусі, стала сустракаючы на гэтым шляху самыя сур'ёзныя перашкоды. Не назіралася міру і згоды і ў дзень, калі падпісваўся гэты царкоўны дакумент . Праваслаўны сабор, што праходзіў у той дзень у Бярэсці, крайне адмоўна выказаўся пра унію, пазбавіў духоўнага сану ўсіх, хто яе падпісаў.

**Леанід ЛЫЧ.**



**На Партызанскім праспекце ў Брэсце госці з розных краін Еўропы кожную восень папаўняюць сваімі пасадкамі парк Міру. Нядаўна тут пабывала група актывістаў міжнароднай акцыі "Лес міру" з нямецкага горада Трэбніц. Яна прыняла ўдзел у добраўпарадкаванні парку на Партызанскім праспекце.**

**НА ЗДЫМКУ: нямецкія госці і жыхары Брэста працуюць у парку Міру.**

**Фота Рамана КАБЯКА.**

## ПРА БЕЛАРУСКАЕ СТУДЭНЦТВА НА ЧУЖЫНЕ

## РАСКАЗВАЮЦЬ ГАДАВАНЦЫ ЛЮВЭНА

Вельмі цікавая кніга выйшла ў Нью-Йорку. Аўтар яе — Барыс Рагуля. А называецца яна "Беларускае студэнцтва на чужыне". Дарэчы, у Беларусі, на жаль, яшчэ зусім не даследаваны студэнцкі беларускі рух. А вось на эміграцыі — першая ластаўка ўжо з'явілася: кніга Барыса Рагулі. У прадмове аўтар піша, што Янка Запруднік "параіў напісаць успаміны пра Лювэн, каб засведчыць праўду аб важным этапе ў гісторыі беларускага студэнцтва на чужыне".

Шчыра скажу, што кніжка ўспамінаў атрымалася цікавай. Чаму ўспамінаў? Ды таму, што пра беларускія студэнцкія згуртаванні з радасцю ўспамінаюць А.Арэшка, Р.Жук-Грышкевіч, Я.Жучка, А.Занковіч, Я.Запруднік, Зора і Вітаўт Кіпелі, Л.Клыбік, М.Латушкін, У.Набагез, М.Наўмовіч, В.Рамук, Я.Сажыч, З.Смаршчок-Жалязоўская, Івонка і Янка Сурвілы, В.Сянькевіч, Л.Трусевіч, П.Урбан і М.Швядзюк. А пачынаўся студэнцкі рух на эміграцыі ў лістападзе 1945 года ў Манбургу. Далей, як піша аўтар кнігі, "беларускія студэнцкія арганізацыі ў другой палове 40-х гадоў у Заходняй Нямеччыне паўставалі амаль спантанна: усюды, дзе апынуліся нашыя студэнты, засноўваліся гурткі-арганізацыі. Гэтак пры Рэгенсбургскім Унівэрсітэце Беларускае Студэнцкае Згуртаваньне паўстала ў верасьні 1947 году. У верасьні таго ж 1947 году было заснаванае Беларускае Студэнцкае Згуртаваньне ў горадзе Карлсруэ. Восеньню 1947 году паўстала таксама Беларускае Студэнцкае Згуртаваньне пры унівэрсітэце Фрайбургу..."

Аўтар кнігі -- таксама былы студэнт, ды не проста студэнт, а старшыня Беларускага студэнцкага згуртавання ў Лювэне. Ён нарадзіўся ў Турцы. Вучыўся ў беларускай і польскай гімназіях, а таксама на медыцынскім факультэце Віленскага універсітэта імя С.Баторыя. Пасля вайны з сям'ёй жыве ў Канадзе. З'яўляецца актыўным сябрам Згуртавання беларусаў Канады, намеснік старшыні рады БНР. Кніга "Беларускае студэнцтва на чужыне" — першая літаратурная спроба. Яна вельмі ўдалая і неабходная. Аўтар Барыс Рагуля імкнуўся, каб кніга ўспамінаў была праўдзівай і без памылак. Гэта яму ўдалося, але дзякуючы шчырым успамінам вышэйназваных сяброў.

Каштоўнасць кнігі не толькі ў тым, што да чытачоў данесены арыгінальныя ўспаміны, але і ў тым, што адзін з раздзелаў кнігі мае назву "Старонкі жыцьця". Гэты раздзел створаны паводле архіўных матэрыялаў і лістоў, прысланых аўтару кнігі былымі студэнтамі на чужыне, і адрэдагаваны Лявонам Юрэвічам. У ім змешчаны біяграфічныя звесткі пра аўтараў, якія згадваюць пра студэнцкі рух.

Ёсць у кнізе Барыса Рагулі і рэдкія, невядомыя раней фотаздымкі. На адным з іх Дом беларускіх студэнтаў у Лювэне, на другім — маладыя Зора і Вітаўт Кіпелі, на трэцім — айцец Роберт і Барыс Рагуля ў Рыме ў 1950 годзе, на чацвёртым — трэці агульны з'езд ЦБСА ў кастрычніку 1949 года ў Бельгіі і іншыя.

Кніга "Беларускае студэнцтва на чужыне" Барыса Рагулі -- своеасаблівая энцыклапедыя маладзёжнага руху на эміграцыі, прадстаўнікі якога заўсёды трымаліся супольна і дружна, пераадольваючы цяжкасці і праблемы.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

## *НАМ ПІШУЦЬ*

## МЕРКАВАННЕ ЗЕМЛЯКОЎ

ТБМ імя Ф.Скарыны Віленскага краю падтрымлівае ідэю правядзення ў 1997 годзе Другога з'езда беларусаў свету.

Нягледзячы на складаную палітычную і эканамічную сітуацыю ў Беларусі, з'езд патрэбна ўсё ж праводзіць у Мінску, у горшым выпадку ў Вільні. Беларусы, дзе б яны ні пражывалі, увесь клопат павінны ўдзяліць Бацькаўшчыне, захаванню дзяржаўнасці і суверэнітэту Беларусі, нацыянальнаму Адраджэнню, роднай мове, гісторыі і культуры беларускага народа.

Такое меркаванне і прапановы ТБМ Віленшчыны.

**Юры ГІЛЬ,**
**адказны сакратар ТБМ,**
**дэпутат Віленскага раёна.**
г. Вільнюс.

## ШЛЯХАМІ "ЗЯМЛІ І ВОЛІ"

# БРАТЫ КАТЫРЛЫ

Пра іх вучобу трапляюцца асобныя разрозненыя звесткі ў матэрыялах мінскага і віленскага гістарычных архіваў (справаводства дырэкцыі вучылішчаў і папячыцеля навучальнай акругі).

Найбольш раннія звесткі, якія ўдалося выявіць, адносяцца да 1844-1846 гадоў.

У 1844/45 навучальным годзе (яшчэ пры жыцці бацькі) сямігадовы Васіль Катырла лічыцца сярод вучняў Віцебскага прыходскага ланкастэрскага вучылішча. У падобных, характэрных для той эпохі ўстановах, як вядома, набывалі першую адукацыю пераважна дзеці разначынцаў.

У наступным годзе яго брат Ігнат, 10 гадоў, -- вучань І класа Віцебскага павятовага вучылішча.

Спіс 1849/50 навучальнага года: Васіль, 11 гадоў, у І класе Віцебскай гімназіі; Ігнат, 13 гадоў, у ІІІ класе гімназіі.

24 лістапада 1851 года ў журнале наглядчыка за "приходящими" вучнямі (якія жылі ў горадзе, а не ў інтэрнаце) з'явіўся надпіс (даручэнне дырэктара наглядчыку): "Довести до сведения г. Топальского, советника казенной палаты, что сын его Михаил успехами своими по закону божию не соответствует ожиданиям начальства гимназии и нуждается в особом родительском побуждении. То же самое сообщить родителям и об учениках: Масловском Иване и Котырло Василии" (мінскі архіў, ф. 2507, воп. 1, спр. 482, л. 16). Легкадумная абыякавасць да святога пісьма, як бачым, ураўноўвае тут і сына шаноўнага саветніка, і дзяцей чыноўніцкай драбнаты. Васіля, як мы разумеем, павінна была "побуждать" усё тая ж гаротная маці Вікторыя Адамаўна.

Паводле архіўных выпісак, па-сяброўску ахвяраваных нам М.Зайцавым-Віжам, увосень 1852 года абодвум братам (Васіль у ІІІ-м, Ігнат у V класе) была прызначана невялікая стыпендыя з уладкаваннем іх у так званай "агульнай вучнёўскай кватэры" (інтэрнаце) пры гімназіі.

Як бы там ні было, жыццё ішло, браты раслі. У спісе вучняў 1855/56 года чытаем: V клас -- Катырла Васіль, 17 гадоў, "личный дворянин" (гэта значыць, -- паўторым, -- бацька за службу атрымаў асабістае, але не патомнае дваранства), стыпендыят, веры праваслаўнай; VII клас (выпускны) -- Катырла Ігнат, 19 гадоў.

Зафіксавана і такое. У лютым 1856 года выпускнік-сямікласнік Ігнат Катырла ўдзельнічае ў так званых літаратурных гутарках у гімназіі: робіць разбор сачынення вучня VI класа Кастуся Валодзькі "Паданне аб латышах" (мінскі архіў, ф. 2507, воп. 1, спр. 462). У сваіх даследаваннях аўтарства беларускіх ананімных паэм мы паказалі, што віцебскія гімназісты наогул жыва цікавіліся літаратурай і фальклорам. У 1855 годзе на Віцебшчыне створана выдатная паэма "Тарас на Парнасе". Як цяпер высвятляецца, да яе стварэння і папулярызацыі мелі непасрэдныя адносіны гімназісты Кастусь Вераніцын і, мяркуючы па ўсім, Элегій Карафа-Корбут (Вуль). Зразумела, літаратурныя поспехі сяброў надзвычай імпанавалі ўсяму гімназічнаму таварыству, у тым ліку, трэба думаць, братам Катырлам (Вераніцын на два гады, а Вуль усяго на год старэйшыя за Ігната). На іх вачах адбыўся цуд узмужання новай беларускай літаратуры, хаця не ўсе, мабыць, гэта ў поўнай меры зразумелі. Так або інакш, але паглыбленае вывучэнне віцебскага гімназічнага асяроддзя 1850-х гадоў надзвычай важнае для даследчыкаў паэмы "Тарас на Парнасе". Браты Катырлы цікавыя нам і з гэтага пункту погляду. Праз іх біяграфіі прасочваецца характэрная асаблівасць -- даўняя цесная сувязь Віцебска з Пецярбургам (нездарма галоўная вуліца ў Віцебску называлася Пецярбургскай, а адзін з вакзалаў у Пецярбургу і цяпер -- Віцебскі).

Вось і Ігнат Катырла, скончыўшы гімназію, доўга не перабірае, а ўжо звыклымі для віцебскай моладзі шляхамі едзе ў "паўночную сталіцу", дзе паступае ў Галоўны педагагічны інстытут (спраўдзілася ўсё ж колішняя мара маці бачыць сына ў інстытуце "петагогическом"). Яго імя знаходзім у спісе таварышаў М.А.Дабралюбава па інстытуту (Рейсер С.А. "Летопись жизни и деятельности Н.А.Добролюбова". М., 1953). Праўда, вучыліся яны разам усяго адзін год ды і на розных факультэтах: Дабралюбаў у 1857 годзе скончыў гісторыка-філалагічны, Катырла ў 1856 годзе паступіў на фізіка-матэматычны.

У 1859 годзе інстытут закрылі, і давучвацца Ігнату давялося ва універсітэце. Паводле вядомай кнігі В.Грыгор'ева "Императорский С.-Петербургский университет в течение первых пятидесяти лет...", Ігнат Катырла скончыў фізмат універсітэта (разрад прыродазнаўчых навук) у 1860 годзе (адначасова з К.Каліноўскім). Скончыў са званнем "действительного студента" (лепшыя па поспехах студэнты, як Каліноўскі, канчалі кандыдатамі).

Васіль з 1859 года, пасля заканчэння гімназіі, стаў таксама пецярбуржцам, вольнаслухачом універсітэта. Мяркуючы па паказаннях Дз. Сцяпанава, Васіль, як і яго старэйшы брат, вывучаў прыродазнаўчыя навукі, а сродкі на жыццё здабываў прыватнымі ўрокамі.

Мы бачылі ўжо, што браты Катырлы, як і ўся перадавая моладзь таго часу, не асталіся ў баку ад грамадскага ўздыму слаўнай эпохі 60-х гадоў, удзельнічалі ў студэнцкім руху, сталі змагарамі за "зямлю і волю".

Пра Ігната (пасля вобыску ў яго 1863 года) новых звестак мы пакуль не маем.

Васіля, схопленага, як мы помнім, 13 сакавіка 1863 года пад Оршай, чакаў доўгі пакутніцкі шлях. 15 сакавіка яго, а заадно і Савініча даставілі ў Магілёў да губернатара. У губернатарскай канцылярыі заводзіцца справа "Об арестовании в Орше Катырло (так на вокладцы; звычайна па-руску пісалі "Котырло". -- **Г.К.**) и Савинича" (цяпер яна ў мінскім архіве, ф. 2001, воп. 1, спр. 891). Пагартаем яе разам, паспрабуем убачыць за радкамі казённых дакументаў рэаліі жыцця.

Першы дакумент датуецца 15 сакавіка, калі Катырлу і Савініча прывезлі. Але на лістах 4--5 чарнавік больш ранняга дакумента без даты і подпісу. Не інакш (падумалася спачатку) гэта накід пісьма губернатара ў Пецярбург па свежых слядах падзей у Оршы, калі распаўсюджвальнік яшчэ не быў схоплены. Або можа нейкі досыць важны чын спехам пісаў губернатару з Оршы (тады чаму не падпісаўся і шкрабаў пяром так нядбайна і размашыста? Спяшаўся?). Дарэчы, пасля з'яўлення пракламацыі ў Маскве і Пецярбургу аб такой магчымасці спецыяльным цыркулярам былі папярэджаны мясцовыя ўлады ці не ўсёй імперыі. Афіцыйны Пецярбург чакаў навінаў. Мяркуючы па змесце нашага дакумента, 13 сакавіка губернатар ці, не менш верагодна, нехта санавіты з Оршы накідваў радкі таропкага паведамлення:

"Возмутительное воззвание Рус(ского) Цент(рального) Комитета, о котором мне дано знать предписанием, вчера явилось у нас. Молодой неизвестный человек в полушубке, в высоких сапогах, в картузе, владея хорошо русским языком, при встрече с одним артиллерийс(ким) солдатом вручил ему конверт, обўявляя, что это письмо одному солдату их команды, причем будто бы дано под видом присланных при письме 15 коп(еек). Письмо это солдат унес с собою и читал другому в квартире, а потом представлено было полковнику, который передал о том городничему, а от этого отдан приказ наблюдать за полушубковою наружностию (так у дакуменце. -- **Г.К.**), что, разумеется, осталось без успеха.

Воззвание это, как слышно, было уже некоторым известно прежде. О развозителе говорят, что ближе всего походит он на студента Горецкого (г.зн. Горы-Горацкага інстытута. -- **Г.К.**) или какого другого, и полагают, что он отправился по уезду в другие команды, там квартирующие.

Разговаривая с начальником баталиона, к нам теперь прибывшего, я узнал, что у него были предписания о наблюдении за воззванием и о том поставлены в известность ротные командиры. А так как о появлении вчера тут воззвания сделалось уже всем тут известно, то я просил баталионного начальника сообщить ротн(ым) командирам о наблюдении за появлением развозителя; но он отозвался, что переписку имеет чрез з(емскую) почту (відаць, не вельмі паспешлівую. -- **Г.К.**).

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**

**Працяг.**
**Пачатак у N 37, 39.**



20--21 верасня адбыліся кароткачасовыя візіты прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Міхаіла Чыгіра ў Рэспубліку Польшча і прэм'ер-міністра Рэспублікі Польшча Уладзімежа Цімашэвіча ў Беларусь.

Кіраўнікі ўрадаў Беларусі і Польшчы наведалі школу з беларускай мовай навучання ў пасёлку Клешчале Беластоцкага ваяводства, азнаёміліся з ходам будаўніцтва пагранічнага пераходу Бабро̆ўнікі, прынялі ўдзел у адкрыцці першай у Беларусі польскай школы ў Гродне.

Міхаілу Чыгіру і Уладзімежу Цімашэвічу быў наладжаны цёплы прыём у пасёлку Клешчале Беластоцкага ваяводства, дзе ў тутэйшай школе вучацца дзеці беларусаў. Прэм'ер-міністр Беларусі перадаў навучэнцам камп'ютэр і літаратуру на беларускай мове.

У адрозненне ад гродзенскай школы, дзе ўсе прадметы (за выключэннем беларускай і рускай мовы і літаратуры, гісторыі і геаграфіі Беларусі і адной з моў так званага далёкага замежжа) будуць выкладацца па-польску, школу ў Клешчале нельга назваць беларускамоўнай. Проста частка дзяцей будзе вывучаць беларускую мову.

Акрамя школьных пытанняў, у праграме сустрэчы кіраўнікоў урадаў Беларусі і Польшчы былі таксама праблемы, звязаныя, у прыватнасці, з паляпшэннем становішча на дзяржаўнай мяжы, з разлікамі паміж суб'ектамі гаспадарання абедзвюх краін у нацыянальных валютах.

НА ЗДЫМКАХ: пачатковая беларуская школа ў пасёлку Клешчале; Міхаіл ЧЫГІР робіць запіс у кнізе ганаровых гасцей.

Фота Яўгена КАЗЮЛІ.



## НА "БЕЛАРУСЬФІЛЬМЕ" -- ПРЭМ'ЕРА

# "ПТУШКІ БЕЗ ГНЁЗДАЎ"

Відаць, нячаста па сённяшнім часе даводзіцца сталічнаму кінатэатру "Масква" прымаць у сваёй кіназале такую колькасць гледачоў, якая сабралася тут нядаўна на прэм'ерны паказ створанай на кінастудыі "Беларусьфільм" новай мастацкай кінастужкі "Птушкі без гнёздаў".

Цікавасць да прэм'еры невыпадковая. Па-першае, не так ужо многа фільмаў выходзіць зараз "са сцен" нашай кінастудыі, а па-другое, прадстаўленая на суд гледачоў карціна, жанр якой вызначаны як меладрама, расказвае аб трагічным і супярэчлівым лёсе беларускай паэтэсы Ларысы Геніюш. Большая частка жыцця гэтай таленавітай жанчыны прайшла за межамі Беларусі, але душа яе заўсёды імкнулася да роднай Бацькаўшчыны.

...Гераіня фільма Ларыса (яе ролю выконвае актрыса Тацццяна Кавалеўская) ад'язджае з маленькім сынам з Беларусі, дзе панують польскія жандары, у Чэхію. Там, за мяжой, засцігае яе вайна, там жа сустракае Ларыса і Перамогу, якая прыносіць з сабой арышт, допыты ў НКУС, ГУЛАГ...

У новым фільме выкарыстаны мемуарныя матэрыялы з біяграфічнай аповесці Ларысы Геніюш, а гледачу дадзена магчымасць паглядзець на падзеі тых часоў вачыма людзей, учынкі і паводзіны якіх афіцыйная савецкая гісторыя клеймавала і асуджала.

Рэжысёр фільма Віталь Дудзін лічыць, што з выхадам на экран яго новая работа абавязкова будзе заўважана крытыкай -- станоўчай ці адмоўнай, напэўна, такой жа неадназначнай, як лёс і жыццё галоўнай гераіні, жанчыны -- птушкі без гнязда.

Новы фільм наўрад ці аднясеш да разраду так званых "касавых", але ўсё ж знойдзе свайго зацікаўленага, удумлівага і ўдзячнага гледача.

# ПЕРШАЯ КНІГА "БЕЛАРУСКАГА КНІГАЗБОРУ"

Ян ЧАЧОТ




(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

## КАРАНАЦЫЯ МІНДОЎГА[1]. 1252 г.

Што гэта за паны!
Наваградка званы
Чаму ім звоняць доўга!
Ах, гэта ж крыжакі
Ідуць, каталікі,
Каранаваць Міндоўга!

Усё на іх блішчыць
Ды золатам зіхціць.
Ад іх наўкол святлее.
Увесь твой строй, крывіч,
Крыўз-Крывэйтаў зніч
Прад бляскам тым бляднее.

У князя заўтра хрост.
А нас пашле наўпрост
Мо крыжакам на яткі![2]
Ужо, тыран, сваіх
Пляменнікаў дваіх[3]
Прагнаў з радзімы-маткі.

Міндоўг не верыць, не!
Сваю карысць тут гне --
Ён сам кіруе лёсам.
Ён будзе каралём!
Тры дні -- каталіком...
Крыжак жа будзе -- з носам![4]

[1] Міндоўг (1203--1263) -- вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага. У 1253 годзе прыняў тытул караля, быў каранаваны ў Навагародку (цяперашнім Наваградку) -- сваёй рэзідэнцыі.

[2] Яткі -- бойня, мясныя лаўкі на рынку.

[3] ..пляменнікаў дваіх. -- Тут, як відаць, мова пра Таўцівіла і Эрдзівіла, ад якіх Міндоўг адабраў іх уладанні ў мэтах умацавання сваёй улады.

[4] Як лічаць гісторыкі, хрышчэнне Міндоўга было палітычным манеўрам -- імкненнем стаць каралём Літвы. У сапраўднасці ён адрокся ад хрысціянства ў 1261 годзе.

## ВІЦЕНЬ,[1] ВЯЛІКІ КНЯЗЬ ЛІТОЎСКІ. 1283--1315 г.

Вера наша, хрысціянства!
Шмат ты ран
крывавых мела,
Покуль сэрцы ўсе
ў паганскай
У Літве заняць здалела.

Бо цябе, што ўсім вяртаеш
Дабрыню, любоў, спагаду,
Прышчапіць Літве хацелі
Праз пажары,
кроў і здраду.

Ордэн той, што
меч крывавы
Нёс на ўласных
дабрачынцаў,
Што ў набегах
нішчыў Польшчу,
Што біў прусаў,
бы злачынцаў,

Што ішоў вайной на ўласных
Светароў ды на рыжанаў,[2]
Жыў рабункамі. Таму так
Шчыраваў
"для хрысціянаў".

Мечам злым
хрысціў Літву ён,
Пляжыў Жмудзь,
знёс мур Рамновы[3].
На пажарышчах тых ставіў
Ён за замкам замак новы.

Ды на трон Літвы сеў Віцень,
Князь рашучы, мудры,
смелы.
Крыжакоў ён біў у сечах,
Ад Літвы адвёў іх стрэлы.

Светарам жа іх ён собіў.
І мяшчанам, што раўкамі
Прывялі яго пад Рыгу,
Каб змагаўся
з крыжакамі.

Пад Браўнзберг,
Каліш і Добжын[4]
Ён хадзіў з сваёй Літвою,
Праслаўляў наш край
у свеце
Зброяй праведнай сваёю.

Нездарма ж і смерць
да князя
Не змагла ўсё
падступіцца.
Сам Пярун яго ў нябёсы
Ўзяў пад
водбліск бліскавіц.[5]

Шмат хто ў час той,
кажуць, бачыў,
Як між хмар,
дзе золак мройны,
На кані, бы месяц, белым,
Пралятаў ён,
рыцар збройны[6].

[1] Віцень (г. н. невядомы -- п. каля 1316) -- вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага (1293--1316). Шмат зрабіў для ўмацавання і пашырэння дзяржавы.

[2] Рыжскі архіепіскап быў супраць панавання крыжакоў над Рыгай, яго падтрымлівалі ў барацьбе з імі і рыжане, якія дапамаглі Віценю перамагчы гэтых нямецкіх агрэсараў.

[3] Рамнова -- легендарная паганская святыня, дзе гарэў Зніч.

[4] Браўнзберг (альбо Бранева), Каліш, Добжын -- гарады ў Польшчы.

[5] Як паведамляе Т. Нарбут, Віцень быў забіты громам. Яго цела адвезлі на капішча Свінтарога і спалілі там згодна з паганскім звычаем.

[6] Аўтар тут падкрэслівае, што з імем слаўнага збройнага рыцара Віценя звязана нараджэнне герба Пагоня.

## ПРА КНЯЗЬКОЎ КАРЫЯТАВІЧАЎ[1] У ЧАСЫ АЛЬГЕРДА. 1331 г.

Хто пустэльны край
свой зробіць,
Той не варт і згадкі.
Хто ж яго ўзвысіць, будуць
Помніць і нашчадкі.

Як прагнаў Альгерд татараў
Аж пад Волгу ў поле.
Карыята за геройства
Даў сынам Падоле.

І яны -- ад стрэл ды мечаў
Хеўры ваяўнічай --
Заснавалі замкі: Бэкат,
Смотрыч над Сматрычай[2].

На рацэ той, дзе ўвесь бераг
Камянямі скуты,
Карыятавічы ўзнеслі
Камянец славуты.

Меджыбож і Тэрэбоўля,
Вінніца з Браславам
Па-над Бугам -- гарады іх,
Помнік іх і слава.

Так князі з Навагародка
Дзеялі ў Падолі.
Не забудуць слаўных дзеяў
Іхніх тут ніколі.

Хай хывуць у гарадах іх
Людзі ўсе шчасліва,
І сыноў тых Карыяты
Спамянуць зычліва.

[1] Карыятавічы -- унукі Гедыміна, дзеці яго сына Карыяты Міхала, які ўладарыў у Наваградку. Гэта -- Юрка, Аляксандр, Тэадор і Канстанцін. У 1363 годзе яны памаглі Альгерду разбіць татараў пад Сінімі Водамі, за што атрымалі ва ўладанне Падоле (на Украіне).

[2] Бэкат, Смотрыч (над ракой Смотрыч) -- гарады на Украіне, якія ўтварыліся вакол пабудаваных Карыятавічамі замкаў.

## УЦЁКІ КЕЙСТУТА[1] З МАЛЬБОРГА. 1361 г.

Ой, быў мулярам наш Кейстут,
Як яго прыгнула доля:
У Мальборгу мур вязніцы
Малатком прабіць ён здолеў!
Разам з Альфам, што
служыў там,
Дзёўб той мур
штоноч зацята --
Толькі б з сцен крыжацкіх воля
Зоркай бліснула крылата!

Ой, наш Кейстут крыжакоў біў!
Дзякуй Альфу -- з ім праз гоні
Князя ў белым з крыжам
чорным
Проста ў зоры несці коні!

На дарозе -- Wer -- da![2] -- варта
Супыніла іх у браме.
Штосьці немцам Альф пабаіў
І -- зноў гром пад капытамі!

Ды не злодзей Кейстут: немцам
Плашч іх белы
з чорным крыжам,
Коней іх -- усё вярнуў ён,
Нават шчыт з іх мечам хіжым.

Пеша брыў ён да Мазоўша,
Дзе жыла дачка Данута
З князем Янушам. Іх замак
У аблокі мецў крута.

Шмат дачцы было ўжо ўцехі!
Толькі Кейстут рваўся ў Трокі,
Каб хутчэй сваёй Біруты
Смутак-жаль прагнаць глыбокі.

Немцу ж дзякуй за гасціннасць
Шле ў пісьме і абяцае:
Калі ён магістра ўловіць,
То надзейней ухавае!

[1] Кейстут (каля 1300-1382) -- сын Гедыміна, князь ВКЛ. Усё жыццё змагаўся з крыжакамі. Каля 1361 года трапіў у засаду і быў узяты крыжакамі ў палон. Прывезлі яго ў Мальборг (ці Марыенбург) да вялікага магістра Віерыха фон Кніпродзе і пасля допыту пасадзілі ў надзейную вязніцу. Але наглядчык Альф аказаўся таксама ліцвінам: яго яшчэ дзіцем паланілі крыжакі. Альф патаемна прынёс Кейстуту ў камору малаток, і той восем месяцаў прабіваў ім лаз у сцяне. Разам з Альфам, апрануўшыся ў белыя рыцарскія плашчы з чорнымі крыжамі, яны ўцяклі з крыжацкага замка.

[2] Wer-da? -- хто гэта? (ням.).

## АЛЬГЕРД, ВЯЛІКІ КНЯЗЬ ЛІТОЎСКІ[1]. 1330--1345 гг.

Як дагнаць жаўронку цяжка
Арла маладога,
Так паэту цяжка ўславіць
Песняй мужа тога.

Утаймоўваў крыжакоў ён,
Розныя плямёны.
У Альгерда ўрад быў мудры,
Добрыя законы.

А чужынец лез -- дадому
З роднай гнаў святліцы.
Прысланяў сваё кап'ё ён
Да ягю ж сталіцы[2].

Быў ён грозны, ды гатовы
Да суседскай згоды.
"Не хачу, казаў, каб марна
Кроў лілі народы".

Каб усе былі такія,
Што сядзяць на троне,
На зямлі, крывёй палітай,
Быў бы мір па сёння.

Люд да іх, як да Альгерда,
Жывучы ў дастатку,
Праз вякі б сваю пашану
Перадаў нашчадку.

[1] Пра Альгерда гл. каментарый да песні "Альгерд і Марыя...". Гэта папраўдзе неардынарная асоба. Ён паспяхова змагаўся з крыжакамі, палякамі, татарамі, маскоўскім царом. Пад яго кіраўніцтвам тэрыторыя Вялікага Княства Літоўскага падвоілася.

[2] Маецца на ўвазе паход Альгерда на Маскву, калі яго войскі нечакана з'явіліся на Паклоннай гары і вялікі князь маскоўскі Дзмітрый Іванавіч вымушаны быў багатымі дарамі задобрыць Альгерда. Альгерд згадзіўся на мір. Пры гэтым ён сказаў маскоўскаму князю: "Хоць мы з табой памірыліся, але мне інакш не выпадае, як толькі прысланіць кап'ё сваё да сцяны твайго горада Масквы, каб славу ўчыніць, што вялікі князь літоўскі, рускі і жамойцкі Альгерд кап'ё сваё да Масквы прысланіў".

Пераклад Кастуся ЦВІРКІ.

# ЛІТАРАТУРНАЯ ПАЛІТРА

Каварны таму, што слава нібыта ёсць, а павагі, прабачце, кот наплакаў. Пародыя (хаця адначасова і спроба) толькі таму, што калізіі даўніны ледзь не механічна перанесены ў наш час, ды шчэ на шматпакутную беларускую глебу, на якой сексам (у цяперашнім яго разуменні) пачалі займацца нібыта толькі зараз, і А.Глёбус, падмеціўшы гэта сваім пільным вокам, адлюстраваў на старонках сваёй кніжкі. Што ж з гэтага атрымалася?

Згодны: падлеткі з захапленнем прачытаюць кніжку, як калісьці некаторыя маладзёны з захапленнем чыталі "Дэкамерон", не маючы па тым часе адпаведных падручнікаў, як зладзіць сваё "інтымнае жыццё". Але прачытаюць толькі тыя яе старонкі, дзе будзе ісці гаворка пра тое, чаго яны яшчэ не ведаюць. А тое, на што ў сапраўднасці накіраваны сарказм, іронія, лёгкі здзек або проста ўсмешка аўтара, -- гэтыя радкі і старонкі будуць перагортвацца як найхутчэй -- у жаданні знайсці тое, чым іх прывабілі спачатку: спрошчанымі да прымітыву сцэнамі "беларускага" сексу.

Ёсць на Беларусі аўтары, якія таксама не цураюцца "інтымнай" тэматыкі і адкрыта апісваюць свае пачуцці. Але калі параўнаць, напрыклад, такога аўтара, як Славамір Адамовіч, з Адамам Глёбусам, то адразу будзе відаць розніца паміж імі. Славамір Адамовіч, пішучы пра ўсё "гэта", не клапоціцца пра тое, што падумаюць пра яго людзі: ён адкрыта здзекуецца і з таго, пра што піша, і з самога сябе, і таму мы чытаем Славаміра Адамовіча без сарамлівых хованак -- чаго саромецца, калі гэта чысты здаровы смех?! Але, разумеючы ўсё гэта, мы толькі потым пачынаем здагадвацца, што аўтар здзекуецца не з сябе (як падалося спачатку), а... **нібыта з самога сябе!** -- з таго, пра якога ён піша (таксама выступаючы ў ролі галоўнага героя). А той, пра якога ён піша, і той, хто ён ёсць на справе, -- гэта зусім розныя людзі. І, здзекуючыся з гэтага **"не сябе"**, а па сутнасці -- з ханжаскай маралі абывацеля, ён дасягае сваёй мэты хутчэй і лепей, чым А.Глёбус. А мы, разгадаўшы сакрэт Славаміра Адамовіча, сакрэт яго свядомых "правакацый", смяемся разам з аўтарам і адначасова "лечымся" ад рэшткаў абывацельскай маралі, якая, хоць і ў розных суадносінах і колькасцях, жыве ледзь не ў кожным з нас.

А.Глёбус ставіцца да "інтымных" пытанняў нашмат сур'ёзней. Знешне ён нібыта выкрывае і крывадушша, і ханжаства, але ў ягоным выкрыцці так мала здаровага непадробнага смеху, уласцівага здароваму, без комплексаў, чалавеку, і надзіва многа шчырага (і таксама непадробнага) захаплення асабістай "мужчынскасцю" і асабістым "геройствам" у гэтым плане -- геройствам супермена.

Як чалавек, не пазбаўлены кемлівасці, А.Глёбус разумее, што ён трохі перабольшыў і ў сваім "геройстве", і ў сваім непадробным захапленні гэтым "геройствам", і таму спрабуе (у канцы кнігі) апраўдацца перад чытачом, недвухсэнсоўна (вуснамі Дамавіка) намякаючы нам, што ўсё гэта **ён не сам!**) прыдумаў, у яго, маўляў, былі папярэднікі, напрыклад, маркіз дэ Сад, Генры Мілер і нават "мілы Бунін са свамімі "Цёмнымі алеямі", не кажучы пра "фундамэнтальны "Дэкамерон" (да якога А.Глёбус "фундамэнтальна" не дацягнуў на цэлыя сорак чатыры навелы).

Гісторыя (у тым ліку і ў літаратуры) мае дзіўную ўласцівасць -- паўтарацца. Толькі першы раз яна выглядае трагедыяй, другі -- фарсам. Джавані Бакача, выкрываючы хібы і заганы свайго часу, спадзяваўся, што знайшоў "лекі", якія дазволяць грамадству зрабіцца лепшым. Аднак чалавецтва трымаецца на зямлі дзякуючы аднаму свайму недахопу, прадугледжанаму прыродай: кожнае новае пакаленне мусіць нанава адкрываць для сябе ўсё, у тым ліку і тое, што яму дазваляе існаваць. І таму "лекі", годныя для аднаго пакалення, не дзейсныя для другога: іх трэба "вынаходзіць" зноў і зноў. Калі б, скажам, аднаго такога пісьменніка, як Бакача, было дастаткова для нармалізацыі сітуацыі ў грамадстве, то ўсе астатнія пісьменнікі былі б непатрэбнымі. Але ж пасля Бакача былі і Мапасан, і Гётэ, і Мільтан, і Багдановіч, і Пастэрнак. А потым -- яшчэ Набокаў ды Лімонаў. Цяпер, як бачыце, да іх далучыўся і А.Глёбус. Кожны з іх даваў (і дае!) сваё, але кожны -- па-рознаму. Цікава, хто даў больш: Бакача ці Мільтан? Дэ Сад або Мапасан? Набокаў ці Лімонаў? Мне здаецца, што **карысталася** чалавецтва болей Мільтанам ды Гётэ. А дэ Сада ці Мілера **проста мела на ўвазе**, як маюць на ўвазе інструкцыю па карыстанню электрапрыборамі ці штучнымі замяняльнікамі са знакамітага Амстэрдамскага квартала.

Чалавецтва, як бачыце, даўно вызначыла свае адносіны да такой літаратуры, да такіх з'яў, да такіх пачуццяў. Чалавецтва! Але не той народ, які завецца беларускім. Фармальна з'яўляючыся еўрапейскім, ён фактычна адарваны ад Еўропы і таму непазбежна мусіць праходзіць усе "азы", даўно вядомыя ў Еўропе нават падлеткам.

Але мы, беларусы, -- падлеткі ў адносінах да таго, што лічыцца светам інтымных пачуццяў. І, адкрываючы для сябе гэты свет, ледзь не кожнае сваё пачуццё (нават на ўзроўні фізіялогіі), мы лічым настолькі важным для сябе, што спрабуем публічна выказвацца пра яго, падаючы як сваё "еўрапейскае" дасягненне. А хіба гэта дасягненне? Еўропа даўно прайшла праз гэта, а мы... толькі яшчэ пачынаем!

І так яно, напэўна, і павінна быць, бо мы толькі-толькі нараджаемся як еўрапейская нацыя, і таму вучнёўскі перыяд непазбежны. Але ж, напэўна, нельга сваё "вучнёўства" ўзводзіць у ранг каштоўнасцяў, пра якія трэба крычаць на ўвесь свет -- на ўсю Еўропу.

Культура пачуццяў (у тым ліку і культура іх перадачы ў той ці іншай форме) ёсць прыкмета агульнай культуры. А хіба ж яе ў нас няма ці не было?! А Багдановіч? А Багушэвіч? А Купала? Але прыгадайце, дзе яны набылі адукацыю, дзе прычасціліся да таямніц сусветнай культуры? Багдановіч -- гэта Расія. Багушэвіч -- гэта наша суседка Польшча -- не зусім, але амаль Еўропа. Купала ўвогуле трапіў у "культурную Меку" -- у Пецярбург -- канглямерат шмат якіх культур.

Мы ж, засяродзіўшыся на сваіх "лясох ды балётах", ужа колькі вякоў застаемся правінцыяламі. Правінцыялізм успрымання нашага пачуццёвага свету -- рэч страшэнная. Жадаючы найхутчэй пазбавіцца яго і найхутчэй зрабіцца "еўрапейцамі", мы забыліся, што мы -- беларусы. Мы (у розныя часы) рабіліся то занадта рускімі, то занадта палякамі, а цяпер во замахнуліся і на Еўропу. Але ж мы найперш тое, што мы ёсць, -- беларусы! -- неразгаданая нацыя, якая яшчэ не паспела здзейсніць сябе. І бездапаможна-канвульсіўныя спробы найхутчэй зрабіцца паўнапраўнай еўрапейскай нацыяй нагадваюць хіба што дзіцячую хваробу, якой абавязкова трэба перахварэць, каб не мець у сталым узросце яе рэцыдываў. І Адам Глёбус, з пэўнай мерай усведамлення, зафіксаваў яе сімптомы.

Адзінае, што яшчэ хацелася б сказаць: наколькі правамерны зварот А. Глёбуса да такой тэматыкі. Я разумею шаноўнага аўтара: кожны пісьменнік на пэўным этапе сваёй творчасці жадае "праверыць" сябе менавіта на такіх тэмах -- ці хопіць у яго майстэрства? Майстэрства -- чыста пісарскага -- можа хапіць -- слова ў рэшце рэшт знойдзецца! -- аднак можа не хапіць іншага: вышыні чыста чалавечага пачуцця -- стаўлення да таго, пра што пішаш, бо чыстая фізіялогія -- яшчэ не паэзія.

Задача пісьменніка заўсёды адна і тая: выклікаць зрушэнне ў душах чытачоў, памагчы ім знайсці сябе. І дасягаецца гэта за кошт катарсіса -- духоўнага ачышчэння. Але А. Глёбус грэбуе ім: катарсіс -- у яго разуменні -- звычайная сентыментальнасць, за якую ён і анучы рванай не дасць. Магчыма, А. Глёбус, паспытаўшы амстэрдамскіх цудаў у выглядзе кандомаў, адкрыў для сябе такія гарызонты мастацтва, што сентыментальнасць для яго і сапраўды нічога не вартая рэч. Але, напэўна, не трэба блытаць "сентыменталізм" (як творчую плынь) з "сентыментальнасцю" -- пачуццёвасцю. Без пачуццяў -- ніякае мастацтва -- не мастацтва. Адмаўленне -- карысная рэч, калі ведаеш, што адмаўляеш. А яшчэ лепей, калі ведаеш, у чым і каму. Мне здаецца, што Адам Глёбус адмаўляе перш за ўсё самому сабе. Давайце разам падумаем -- у чым?

**P.S.** Самае дзіўнае здарылася потым -- калі артыкул ужо быў напісаны. Не скажу, што гэта было лёгка і проста, бо, з аднаго боку, трэба было захоўваць аб'ектыўнасць (пры ўсёй суб'ектыўнасці ўспрымання) і не крыўдзіць аўтара беспадстаўнымі папрокамі, выкліканымі адно ўласным стаўленнем да тых ці іншых патынняў або праблем. А з другога -- хацелася падкрэсліць тое не толькі дадатнае, што ёсць у творах, але і недахопы, прайсці паўз якія я не мог і якія па сутнасці і з'явіліся штуршком да напісання артыкула.

Але па меры таго, як ён набліжаўся да свайго завяршэння, не раз і не два да мяне прыходзіла думка, якая мяне надта здзіўляла: "Штосьці не тое я пішу! Дзесьці я не зусім справядлівы да аўтара!"

Спачатку я не разумеў, у чым справа: тое, што выклікала маю нязгоду або абурэнне, нікуды не дзелася -- яно засталося ў творах! -- і па-ранейшаму было непрымальным для мяне. Але ў нечым я зрабіў памылку: мо адштурхнуўся не ад таго, засяродзіўшыся на дробязях, і не ўбачыў галоўнага -- сутнасці творчага крэда Адама Глёбуса?

І толькі калі была пастаўлена кропка, калі "перагарэлі" ўсе "крыўды" (і калі ўжо я не быў аблытаны імі, як павуціннем), тая думка, што нейк невыразна прыходзіла да мяне, нарэшце праяснілася, і я змог сфармуляваць яе: сапраўды, я вельмі несправядлівы да аўтара! Я зманіў чытачу!

У чым жа? А ў тым, што аслеплены "крыўдай" за Пецярбург (за такое яго адлюстраванне), а таксама за відочныя пралікі ў тых ці іншых месцах аповесцяў або раманаў, не заўважыў таго неаспрэчнага факта, што героі "Дамавікамэрона" між тым... **жывуць!** -- незалежна ад таго, што я пра іх думаю і думаў. Я не прыняў іх адразу -- па прычынах, ужо вядомых чытачу, не прымаю і цяпер -- яны не ўзбагачаюць мяне духоўна, яны толькі завастраюць маё бачанне тых з'яў, пра якія вёў гаворку А. Глёбус, -- але, паўтару: **яны жывуць!** -- сваім літаратурным жыццём, бо гэта -- найперш! -- мастацкія вобразы!

Няхай гэтыя словы не пададуцца вам дзіўнымі, супярэчнасці тут ніякай няма: літаратурныя творы маюць адну асаблівасць: ты можаш з захапленнем ці замілаваннем чытаць тыя ці іншыя радкі або старонкі, да нябёс расхвальваць аўтара, які іх напісаў, але... Але праз нейкі час ты не будзеш помніць ні радочка з таго, чым захапляўся паперад. І наадварот: тое, што цябе абурала, з цягам часу робіцца ўсё больш выразным і бачным. Абурэнне прайшло -- і застаўся вобраз, ачышчаны ад твайго суб'ектыўнага ўспрымання, суб'ектыўнага густу і суб'ектыўнага разумення: **ён запомніўся табе!** І гэта самае істотнае, калі гаварыць пра кнігу ці вобраз, выведзены ў ёй.

Так, "Дамавікамэрон" падаецца спачатку падробкай, фарсам, пародыяй. Чаму так -- сказана вышэй, і заўвагі, выказаныя раней, не здымаюцца, яны застаюцца, бо ў той умоўнасці, якая завецца літаратурай, Адамам Глёбусам вытрыманы не ўсе ўмовы літаратурнай гульні, і менавіта яны выклікаюць нязгоду. Калі б усё было пабудавана бездакорна, іх не было б. А так -- падлічыце, колькі часу спатрэбілася на тое, каб вобразы, створаныя пісьменнікам, набылі нарэшце сваю выразнасць, зразумеласць і важкасць (кніжку прачытаў дзесь у канцы красавіка, на артыкул (з перарывамі) страціў амаль увесь травень, і толькі ў пачатку чэрвеня прыйшло разуменне таго, што ж на самай справе зрабіў А. Глёбус).

Катарсіс са спазненнем? Не! Катарсіс -- з'ява, якая адбываецца ў момант прачытання твора. Але ачышчэнне ўсё роўна адбылося. Толькі не маё, чытацкае, а вобразаў: яны ачысціліся ад таго, што ім перашкаджала, і дзякуй Богу, што так адбылося. Адмовіўшыся ад катарсіса, які ўздзейнічае непасрэдна, Адам Глёбус пайшоў другім шляхам: стварыў свой прыём -- катарсіс вобраза. Лепей гэта ці горш, падкажа час, а мы мусім мець тое, што маем: неардынарную кніжку пад назваю "Дамавікамэрон", якую нельга не заўважыць і нельга закрэсліць, бо яна запамінаецца.

Мне застаецца толькі адно: прасіць прабачэння ў аўтара за такі незвычайны разгляд ягоных твораў (нібыта адмаўленне, а потым прызнанне), але, можа, якраз такі падыход і паможа ягонай кнізе хутчэй знайсці дарогу да чытача, які, паблукаўшы па маіх разважаннях, знойдзе лепшы (і карацейшы!) шлях да кнігі, вартай не толькі ўвагі, але і спасціжэння.

**Анатоль КІРВЕЛЬ.**

**Заканчэнне.**
**Пачатак у NN 35—37, 39.**

# ДАРОГАЙ ЯЗЭПА ДРАЗДОВІЧА

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Нарадзіўся Язэп Драздовіч у засценку Пунькі Дзісенскага павета ў 1888 годзе. І вось сюды на яго радзіму прыехалі беларускія мастакі, іх калегі з Літвы і Польшчы. Пленэр працягваўся дзесяць дзён, і за гэты час мастакі праехалі дарогамі Я. Драздовіча, наведалі Пунькі, Германавічы, Падсвілле, Гарадзец, Плісу, Празарокі і іншыя мясціны, звязаныя з імем славутай асобы. У Глыбокім сустракаліся з творчай інтэлігенцыяй, шмат працавалі, каб пасля пленэра наладзіць выставу сваіх работ.

Пленэр быў арганізаваны культурна-асветным цэнтрам імя Язэпа Драздовіча і Беларускім фондам Сораса. Ёсць думка, што ён стане традыцыйным.

**НА ЗДЫМКАХ: у музеі Я. Драздовіча; на адкрыцці пленэра выступіў ансамбль "Талака"; працуе мастак У. СУЛКОЎСКІ.**

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**








# ГАРБАТА З СЯМЕЙНАГА САМАВАРА





(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Калекцыю сваю Мікалай Шаўцоў збірае ўсё жыццё. За гэты час ён знайшоў, адрэстаўрыраваў, адрамантаваў дзве з паловай сотні самавараў. Пры гэтым практычна ўсе яны маюць індывідуальныя рысы, і кожны абавязкова будзе нечым не падобны на іншыя. Прычым, самавары зроблены ў стылі свайго часу -- барока, рэнесанс, ракако, а могуць нагадваць і антычную вазу, шар ці куб, словам, усё залежала ад фантазіі майстра, а яе тады хапала... Дачка Мікалая Сцяпанавіча Міліта расказала, што самавары, на яе думку, розняцца не толькі формай, але і... полам -- бываюць самавары-хлопчыкі і самавары-дзяўчынкі, самавары з тонкімі таліямі і з шырокімі плячамі.

У былыя часы іх стваралі з медзі, латуні, разнастайных сплаваў, а самыя каштоўныя выраблялiся з серабра. Між іншым, якасць чаю залежыць ад таго, з якога матэрыялу зроблены самавар. Адна фабрыка рабіла самі самавары, кранікі і камфоркі заказвалі на іншай вытворчасці. Кожны майстра ўкладваў у выраб уласную фантазію, і таму самавары -- як людзі: быццам бы шмат агульнага, а характар у кожнага свой...

Чым болей на выставе я дведвалася пра самавары, тым больш загадкавай, рытуальнай рэччу яны мне здаваліся. Мяркуйце самі: у былыя часы ля самавара збіралася ўся сям'я, якой бы яна ні была -- вялікай ці не вельмі. (Дарэчы, на выставе ёсць маленькі, я нават сказала б, інтымны самавар -- усяго на два кубкі гарбаты, а ёсць і такі, што здольны напаіць ажно 120 чалавек!...). За самаварам вырашаліся праблемы, прымаліся самыя адказныя сямейныя рашэнні. Ён аб'ядноўваў, прыміраў, супакойваў... Між іншым, кожны з самавараў на гэтай выставе таксама нясе на сабе часцінку гэтай даўняй сямейнай цеплыні і станоўчай энергіі. Нездарма Мікалай Сцяпанавіч гаворыць, што калі нават хто і прыйдзе сюды з дрэнным настроем, то адсюль абавязкова пойдзе з усмешкай. Традыцыйна самавар павінен быў бліштчэць, а да свята яго начышчалі да сапраўднага ззяння.

Большасць экспанатаў сваёй калекцыі Мікалай Сцяпанавіч знайшоў на тэрыторыі Беларусі, сёе-тое ў Расіі і на Украіне. Аднак памыляюцца тыя, хто лічыць самавар прыналежнасцю выключна славянскага побыту. На выставе мне паказалі самавар, які быў зроблены ў ЗША фірмай "Эдзісон-патэнт" яшчэ ў мінулым стагоддзі. Так што да ведама ад'язджаючых за мяжу: везці з сабою ў Амерыку ў якасці сувеніра самавар, аказваецца, на самай справе тое ж самае, што ехаць з уласным самаварам у Тулу. Некаторыя з самавараў былі знойдзены разбітымі, дзіравымі, чорнымі. Здавалася, што ніколі нічога з імі ўжо не зробіш. Але калі папрацаваць тры-чатыры тыдні, а можа, і болей, то можна атрымаць сапраўдны музейны экспанат.

Пра самавары Мікалай Сцяпанавіч можа расказваць бясконца. Але ідылія скончылася, калі я задала зусім бяскрыўднае пытанне: "А дзе вы захоўваеце сваю калекцыю?"

Тут яе ўладальнік неяк адразу засумаваў, а потым сказаў, што ніякага пэўнага месца гэтае багацце не мае і трымаць гістарычныя каштоўнасці даводзіцца ў склепах, у сяброў у хлявах, дзе яны вельмі хутка страчваюць свой святочны, ды і ўвогуле, прывабны выгляд. Пяць гадоў Мікалай Сцяпанавіч стукаўся ва ўсе дзверы з прапановай стварыць музей народнага побыту, для якога ўжо ёсць экспанаты, трэба толькі адзінае -- памяшканне, дзе можна было б размясціць калекцыю. Была ідэя нават стварыць пры такім музеі своеасаблівы чайны бар, каб наведвальнікі маглі пачаставацца гарбатай з траў, прыгатаванай у сапраўдным старажытным самавары. Але нічога з гэтага не атрымалася. Так што і зараз выстава гэтая папрацуе паўтара месяца, а потым зноў прыйдзецца хаваць самавары па склепах ды хлявах, дзе медзь вельмі хутка пачарнее і пазелянее, а любавацца гэтай прыгажосцю будуць толькі павукі ды пацукі. І няма больш ні сіл, ні жадання гаварыць аб разумным стаўленні да нашай гістарычнай спадчыны, аб тым, што кожны з экспанатаў калекцыі -- каштоўная часцінка памяці народа, якую ў выпадку страты нельга ўзнавіць ці паўтарыць. Ды і навошта? Усе ўсё ведаюць, і ўсе да гэтага ставяцца абыякава...

Здаецца, што мы перажываем нейкі новы этап беспамяцтва, які акажацца для айчыннай культуры больш ціхім, непрыкметным, але і больш разбуральным, чым усе папярэднія войны і рэвалюцыі. А таму, пакуль існуюць гэтыя маленькія знікаючыя астраўкі памяці ў невялікіх цесных пакойчыках, спяшайцеся наведаць, пагладзець і запомніць, каб потым было пра што расказваць дзецям і ўнукам.



**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

## СМАЧНА ЕСЦІ

### СУП-РАСОЛЬНІК ПОСНЫ

У каструлю палажыць дробна нарэзаную цыбулю і лыжку алею. Калі цыбуля крыху абсмажыцца, дабавіць нарэзаныя белыя грыбы, даць ім злёгку падсмажыцца, заліць кіпенем, накрыць крышкай і варыць да гатоўнасці. Затым палажыць зваранай асобна карані, ячневыя крупы, дробна нарэзаныя агуркі і варыць. Перад падачай пасыпаць зяленівам.

### СОУС ГРЫБНЫ З ЧАСНАКОМ

Долькі часнаку (10 грамаў) дробна пасячы, растаўчы з дабаўленнем солі і алею (60 грамаў). Грыбы (150 грамаў) адварыць да гатоўнасці у 0,4 літра падсоленай вады, працадзіць, нарэзаць і змяшаць з часнаком. Падрыхтаваную сумесь заліць грыбным адварам, дабавіць воцат (3 грамы), перац, лаўровы ліст, соль і перамяшаць.

### КАБАЧКІ, ФАРШЫРАВАНЫЯ ГРЫБАМІ

Кабачкі абабраць, нарэзаць тоўстымі кружкамі, выдаліць з іх зернеткі і частку мякаці, надаўшы выгляд місачкі. Адварыць да паўгатоўнасці ў падсоленай вадзе, адкінуць на сіта. Калі вада сцячэ, напоўніць кабачкі грыбным фаршам, запаніраваць у муцэ і падсмажыць на патэльні.

Для прыгатавання фаршу грыбы нарэзаць скрылікамі, падсмажыць, дабавіць падсмажаную цыбулю, смятану і паварыць.

На 4 невялікія кабачкі -- 2 сталовыя лыжкі пшанічнай мукі, 150 грамаў свежых белых грыбоў, 2 галоўкі рэпчатай цыбулі, 50 грамаў сметанковага масла, 1/2 шклянкі смятаны, кроп і соль.

### ВАЛАВАНЫ З ФАСОЛІ З ГРЫБАМІ

Зварыць у вадзе з цыбуляй і каранямі белую фасолю да мяккасці, зліць адвар і працерці фасолю ў гарачым выглядзе праз сіта. У гэтае пюрэ дабавіць соль, перац, сырыя жаўткі і добра перамяшаць. Зрабіць з пюрэ авальныя каробачкі, напоўніць іх фаршам з грыбоў, пасыпаць цёртым сырам, паліць растопленым сметанковым маслам і запячы ў духоўцы.

Для прыгатавання фаршу свежыя грыбы нарэзаць дробнымі кубікамі і падсмажыць на сметанковым масле.

На 200 грамаў фасолі -- 2 жаўткі, 200 грамаў свежых грыбоў, 50 грамаў сметанковага масла, 1 галоўка рэпчатай цыбулі, па 1 кораню пятрушкі і сельдэрэю, соль і чорны молаты перац.

## ФЕСТЫВАЛІ, КАНЦЭРТЫ, ПРЭМ'ЕРЫ



На праспекце Машэрава ў Мінску адбыўся музычны фестываль "Рок чыстага неба-96". Арганізавалі яго радыё "Бі Эй" і гарвыканком. У ім прынялі ўдзел вядомыя расійскія рок-групы "Арыя" і "Містэр Твістэр", а таксама беларускія групы "Крама", "Рублёвая зона", "Буржуазія" і іншыя.

НА ЗДЫМКУ: на сцэне Джагер з беларускай рок-групы "Рублёвая зона".

Фота Віктара ТАЛОЧКІ.

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 1018. Падпісана да друку 30. 9. 1996 г. у 12.00. Рэгістрацыйнае пасведчанне N 81.